Беларуская газэта
Naša Niva

# НАША НІВА

№ 3
кастрычнік 1991
кошт 1 рубель



*Здымак С.Кажамякіна.*

*Здымак Ул.Ханжанкова.*





* * *

*Як вольна хвалюецца мора*
*ўрачыстых сьцягоў!..*
*як шчыра сваю перамогу*
*сьвяткуюць героі! —*
*вось гімну іх рэха*
*далёка разносіцца зноў,*
*і пырскае ў неба салют,*
*нібы сьвежая кроў;*
*і — палкія, мужныя —*
*клятвы мужчынаў гучаць,*
*і вострая вільгаць*
*пасуе жаночым вачам.*
*І дзіўна мне —*
*разам з усімі кудысьці ісьці*
*па бруку гарачым,*
*па мёртвым каляным лісьці,*
*шукаць і ня верыць,*
*што сябра пагляд мільгане,*
*і ведаць напэўна,*
*што ён не пазнаў бы мяне.*

Т.С.

**З гэтым нумарам газэты сталым падпішчыкам *НН* бясплатна высылаецца зборнік вершаў Таццяны Сапач «Восень».**

## Вазьмі крыж свой...

Апавяданьне

Вячаслаў Адамчык



Субота, 22 чэрвеня 1991 года... Бэрлін.

Патрэбная ўсяго невялікая папраўка ў календары, каб супаў яшчэ дзень і год, і каб памяць мая вярнула мяне адсюль, з Ванзэйвілы, у тое далёкае лета, на ружаваты ад смолкі поплаў за белым мястэчкам, да нашай сьцюдзёнай нават сярод лета Ятранкі, да таго нечаканага, пачутага першы раз у жыцьці стуку кулямётаў, да тых чорных самалётаў зь белымі крыжавінамі, што, зрабіўшы разварот над чыгуначным мостам, з натужным гудам прайшлі над прымрэлаю ад сьпёкі наваградзкаю шашою, двойчы, кароткімі чэргамі, паласнуўшы па маяку, які выткнуўся зь сіваватага хвойніку на грудку, ужо за нашаю вёскай.

Ляцелі яны нізенька й па-ястрабінаму імкліва, выпусьціўшы, нібы кіпцюры, пярэднія колы й ледзьве не датыкаючыся імі да трапяткіх, зьвіслых па-над шашою бярэзінаў. Сьпярша, здаецца, тры. А потым з Дварца, дзе быў аэрадром (дакладней, яго толькі будавалі, звозячы з усяго наваколья камяні ды пасылаючы тутэйшых сялянаў на «трудовое участие»), гэтаксама невысока праняслося яшчэ некалькі зьвёнаў хэнкеляў ці мэсэршмітаў — лёгкага тыпу аднаматорных бамбоўцаў — і гэтаксама, зьвярнуўшы над наступным мостам у бок шашы, у міг вока зьніклі за сінім засмужаным ляском, за выцьвілым небасхілам. Неўзабаве адтуль прыкацілася й разарвалася, нібы далёкі гром, глухаватае водгульле — першыя бомбы падалі ўжо на белыя мураванкі ціхага вечаровага Наваградка, на «сельскі й анельскі» дамок Адама Міцкевіча, адбудаваны яшчэ пры польскіх, нядаўніх уладах, так хутка й таксама нечакана зьмененых на савецкія.

Але пра гэта я даведаўся пазьней, як пазьней і асэнсаваў гэтыя зьмены ўладаў — польскую на савецкую, савецкую на нямецкую.

А тады, васьмігадовы хлопец, я стаяў босымі нагамі сярод густое прэлае травы яшчэ няскошанага лугу і, здумелы, перапуджаны нізкім лётам нахабна-небаязьлівых самалётаў, прыслухваўся да далёкага, прыглушанага кашалеўскімі лясамі грукату бомбаў.

— Гэта — нямецкія самалёты! Кажу табе — нямецкія! Вайна пачалася, вайна! — зь нейкім раптоўным зьдзіўленьнем і роспаччу ўскрыкнуў мой стрыечны брат Болесь, які, на пяць ці шэсьць гадоў старэйшы за мяне, напэўна, па-сталаму асэнсоўваў тое страшнае, што ўжо чынілася ў Наваградку.

Мы толькі што занесьлі ў мястэчка, у жоўты, далікатна выштукаваны й выфарбаваны дамок, у ксяндзоўскую плябанію, сьвежае, надоенае ўдзень малако і зь белым парцалянавым збанком варочаліся дадому, на блізенькі ад мястэчка дзядзькаў хутар. Дарэчы, ён быў і відаць адсюль, з поплава: за цёмна-зялёным алешнікам на пяшчаным, падмытым упартаю, мармытліваю рэчкаю касагоры ўздымаліся дзьве высокія тычкі-радыёантэны й лабатая шэра-саламяная страха ўладарнага над усімі будынкамі гумна.

Цяпер я ўспамінаю ружавашчокага ў чорнай сутане зь белым падкаўнерыкам ксяндза, што дзюбнуў шчопцямі ў бэзавы шкляны сподачак і, кінуўшы ў нашыя выцягнутыя рукі рознакаляровых цукерак-падушачак, пачаў зноў шаптацца з касьцельнымі служкамі — немаладымі дзюбаносымі й

*(Працяг на старонцы 14)*

Максіму Багдановічу сёлета спаўняецца 100 гадоў. Гэта ў чатыры разы болей, чым ён пражыў. Па часе юбілей паэта супадае зь ягонай поўнай рэабілітацыяй — з апраўданьнем чыстага мастацтва, з канчатковым разводам ідэялёгіі і красы. Да юбілею паэта, які друкаваў свае вершы пераважна ў *Нашай Ніве*, мы зьмяшчаем фрагмэнты хрэстаматыйнай працы Антона Луцкевіча — яго публічнай лекцыі 1927 году «Праблемы красы й мастацтва ў творах Максіма Багдановіча».

# Апраўданьне чыстай красы

**Антон Луцкевіч**



«Песьняром Чыстае Красы» назваў аўтар гэтых радкоў Максіма Багдановіча, калі першы спасярод беларускіх крытыкаў наважыўся даць ацэнку ягонага «Вянка» на старонках *Нашае Нівы* 15 гадоў назад. І гэтае імя, дадзенае тады нашаму незабытаму Служку Красы, сустрэла агульнае прызнаньне і перайшло ў гісторыю беларускае адраджэнскае літаратуры.

Бо ж і праўда: ніводзін зь беларускіх паэтаў ня выявіў такой сьвядомасьці ў шуканьні КРАСЫ, ня выявіў такога шчырага пакланеньня ёй, як Максім Багдановіч. І, творачы новую КРАСУ сваімі вершамі, Багдановіч у цэлым радзе сваіх твораў фармуляваў свой погляд на асноўныя, ніколі не ўміраючыя, заўсёды актуальныя й жывыя праблемы КРАСЫ й МАСТАЦТВА.

Што ж такое КРАСА, што такое МАСТАЦТВА? — Каб гаварыць пра погляды Багдановіча на гэтыя праблемы, трэба перш самім сабе здаць справу з таго, як мы глядзім на іх, пад якім кутом гледжаньня будзем аналізаваць думкі нашага пісьменьніка.

*

Усё жывое йснуе й прадаўжае ў бесканечнасьць існаваньне свайго роду й віду, дзякуючы магутнаму інстынкту, які, злучаючы два розныя полы, робіць магчымым РАЗМНАЖЭНЬНЕ. Чым вышэйшая ступень разьвіцьця данага віду, тым багацейшыя й тыя формы, у якіх выяўляецца гэны разродчы інстынкт. Да акту, які мае на мэце прадаўжэньне роду чалавечага, пабуджае сучаснага цывілізаванага чалавека нязвычайна зложнае, асаблівае пачуцьцё: гэта — ЛЮБОЎ.

Але ЛЮБОЎ далёка перарасла межы свайго пачатнага службовага назначэньня. Яна родзе гэтулькі цудоўных, захопліваючых усю нашу істоту настрояў і перажываньняў, што ЛЮБОЎ сталася для нашае сьвядомасьці як быццам САМАМЭТАЙ, нечым непрыраўнальна вышэйшым за самае нашае істнаваньне, за нашае жыцьцё — як адзінкі, так і ўсяго роду.

КРАСА, так багата й шчодра рассыпаная ўва ўсёй ПРЫРОДЗЕ, гэта — СТЫМУЛ, ПАБУДЗІЦЕЛЬ да ЛЮБОВІ. Шматфарбныя крылцы матылька, хвост павука, які пераліваецца ўсімі колерамі вясёлкі, гордая грыва льва, таксама як песьні салаўіныя й токі глушцовыя, — усё гэта спосабы прывабліваньня другога полу, усё гэта — пабудзіцелі да ЛЮБОВІ. Тое ж самае бачым і ў чалавека: хараство цела ён ужо сьвядома стараецца павялічыць штучнымі аздобамі, і гэта сустракаем у найдаўнейшыя пэрыяды йснаваньня чалавека на зямлі. Але не адна толькі КРАСА ФІЗЫЧНАЯ грае гэткую ролю: мо йшчэ больш магутную прываблiваючую сілу паміж рознымі поламі бачым мы ў духовых праявах чалавечага Я — у КРАСЕ ДУХОВАЙ.

У меру таго, як паняцьце КРАСЫ пашыралася й паглыблялася, робячыся ўсё больш і больш зложным, з КРАСОЙ сталася тое самае, што і зь ЛЮБОЎЮ. Бо ж і КРАСА страціла сваю першапачатковую ролю — ролю службовую выключна адносна *любві й размнажэньня*. Яна абняла ўвесь жывы й нежывы, матэрыяльны й нематэрыяльны сьвет і яго праявы. Чалавек пачаў шукаць і знаходзіць яе ўсюды. Яна сталася для сваіх адэптаў — САМАМЭТАЙ.

Але пачатковая адзнака КРАСЫ: *буджэньне расплоднае сілы ўсяго жывога*, — ня счэзла ў сувязі з гэтым. Наадварот: буджэньне нашых творчых сіл выйшла за межы так званае ФІЗЫЧНАЕ ЛЮБВІ, абняло ўсе магчымыя кірункі нашага духовага самавыяўленьня, творчасьць нашага ДУХА, нашае МЫСЬЛІ. Так званая ЭСТЭТЫЧНАЯ ЭМОЦЫЯ, якую выклікае ў нас КРАСА, і ёсьць ня што іншае, як від магутнага ДУХОВАГА ЎЗДЫМУ, аналягічны зь *любоўным экстазам*, ёсьць перадусім ПАВЫШЭНЬНЕ ў нас так званага ЖЫЦЬЦЁВАГА ТОНУСА. Што не дае нам гэнага духовага ўздыму, што не павышае нашага жыцьцёвага тонуса, гэта — *не краса*.

Такое разуменьне КРАСЫ абыймае й найнавейшую ПРАЦОЎНУЮ ТЭОРЫЮ паходжаньня МАСТАЦТВА: усялякае МАСТАЦТВА, інтэгральную частку якога прадстаўляе КРАСА, запраўды ж мусіла й мусіць нам ПАМАГАЦЬ У ПРАЦЫ, бо эстэтычная эмоцыя, якую дае нам мастацтва, павышаючы ў нас жыцьцёвы тонус, гэтым самым павышае і нашу здольнасьць да ТВАРЭНЬНЯ — да ПРАЦЫ.

Але такі ўплыў робіць КРАСА ня толькі на таго, хто ці то глядзіць на яе, ці іншымі спосабамі яе ў сябе ўбірае: яна дае мо йшчэ больш багатыя эстэтычныя эмоцыі таму, хто яе ТВОРЫЦЬ. І ўсялякае МАСТАЦТВА — гэта ёсьць такое САМАВЫЯЎЛЕНЬНЕ, у аснове якога ляжыць няўхільна элемэнт КРАСЫ, ды якое дае эстэтычную эмоцыю і ТВАРЦУ, і таму, хто пазнае творства мастака. Дык з поўным правам мы можам паўтарыць словы выдатнага французскага мысьліцеля-эстэта М.ГЮЙО: «Адчуваць у сабе жыцьцё — вось аснова ўсякага мастацтва і ўсякае прыемнасьці. А ў роўнай меры дае здаваленьне і эстэтычна прыемна вонкавае выяўленьне ўнутранага жыцьця».

*

Мы вывялі гэтае адзначэньне КРАСЫ і МАСТАЦТВА, так сказаць, генэтычным мэтадам, як найбольш рацыянальным пры разважаньнях аб зьявішчы, якое тварылася тысячалецьцямі. І з гэтым азначэньнем зусім згаджаецца пагляд Максіма Багдановіча на асноўныя праблемы КРАСЫ і МАСТАЦТВА.



Здымак Алены Адамчык.

*И на глазах у всех опять терзает*
*Неповоротливо печальный инструмент...*

# Старыя Лівадзійскія могілкі

Уладзімер Арлоў



Здарыцца так, што дабрадзеі з Саюзу пісьменьнікаў адшпіляць табе пуцёўку ў Дом творчасьці імя Антона Паўлавіча Чэхава, і ты апынесься сярод дзьвюх соцень творцаў, зь якіх калі-небудзь схіляліся над пісьмовым сталом мо чалавек дзесяць. Цябе гэта зусім ня будзе абыходзіць, калі левакі будуць трымацца, як людзі, але яны будуць касіць пад пісьменьнікаў, і ты паспрабуеш закасіць пад сантэхніка, узнагароджанага пуцёўкаю за перамогу ў сацыялістычным спаборніцтве, і будзеш з ганьбаю выкрыты, калі прарве трубу, і трое пісьменьнікаў з суседняга стала прафэсыйна залезуць у каналізацыйны лаз і ймгненна ліквідуюць аварыю. Праўда, сярод творцаў будзе непрыкаяна блукаць пад кіпарысамі некалі гнаны, а цяпер улаўраны расейскі паэта, і расейскамоўная аўтарка зь Менску, у якой ад беларускай мовы на твары зьяўляецца гідлівая грымаска, і малады армянскі перакладчык Ашот, які, кажучы словамі М.Зошчанкі, «знает дам и верит в их назначение»...

Зрэшты, ты прыедзеш у гэты дом не дзеля назіраньняў за прадстаўнікамі твайго віду й безь вялікіх спадзяваньняў стварыць нешта геніяльнае. Ты прыедзеш таму, што недзе там, у Ялце, ля сіняй бухты, ляжыць Максім Багдановіч. Адзіны на сьвеце паэта, пра вершы якога ты можаш з усёй пэўнасьцю сказаць, што паэзія сапраўды здольная зьдзейсьніць дзіва. Бо бачыў тое дзіва на свае вочы: твой раўналетак, сын савецкага афіцэра й расеец па пашпарце, які зрываў урокі ніколі ня вывучанай ім белмовы, у дзесятай клясе грэбліва выкалупнуў нагой з сабранае піянэрамі макулятуры Максімаў зборнічак, пачаў, скрывеліўшыся, чытаць, а потым зрабіўся беларускім празаікам, пабыўшы перад гэтым выдаўцом падпольнага альманаху, які адабралі хлопцы ў цывільным.

Недзе там, зусім блізка, будзе ляжаць Максім Багдановіч, і табе дастаткова будзе запыніць таксоўку ды сказаць: «Старое Ливадийское кладбище», але замест простага й лягічнага ўчынку ты чамусьці будзеш дзень пры дні плёхацца ў цёплым, быццам вада ў лазнай балеі, моры ды шнураваць па ўзьбярэжжы.

На ўзьбярэжжы будуць стаяць пад пальмамі плеценыя столікі з гумовай садавінаю й парожнімі пляшкамі з-пад трункаў, якія п'юць у сваіх краінах замежныя грамадзяне. За дзесяць рублёў ты зможаш пасядзець за тым столікам і атрымаць каляровую фотку, але ты лепей вып'еш за гэтыя грошы дзьве шклянкі херасу ў татарскай кавярні ("У чарцы цёмнай і глыбокай, плешча, пеніцца віно...") і пасунесься далей — паўз фатографа з плюшавым Міхаілам Сяргеевічам, паўз фатографа з малпаю, якая з зусім чалавечаю радасьцю задарма паказвае кожнаму мінаку вогненна-чырвоны зад, паўз фатографа з трохмэтровым смарагдавым пітонам, які нечым няўлоўным нагадвае галоўнага камісара TV таварыша Краўчанку, паўз карункавы ад пены прыбой, што выносіць на бераг дарункі мора ў выглядзе шкарпэтак і скарыстанага прэзэрватыва ("Ў іх русалкі заблуталі косы, — рвуць і блутаюць срэбныя ніці..."), паўз мастакоў, што малююць партрэты з натуры, паўз мастачку, якой ты б з прыемнасьцю папазіраваў, але толькі ня тут, паўз гітарыстаў, скрыпачоў і джазістаў, гледзячы на якіх узгадваеш ранняга Алега Гаўрылавіча Мінкіна:

*Бродячий музыкант, он дело знает:*
*Футляр раскрыл, и — шляпу на цемент,*

Потым будзеш лезьці да сябе на гару, а, падняўшыся ў нумар, выйдзеш на гаўбец і незнарок угледзіш, як на гаўбцы пад табою перакладчык Ашот расшпільвае станік на бялявай студэнтаццы Зіне, якую цэлы дзень пасьвіла ды так і не ўпасла дагледжаная маскоўская маман.

Назаўтра будзе задушлівы скварны дзень ("Ад сьпёкі пышуць дахі і асфальт...") з экскурсыяй па чэхаўскіх мясьцінах. Тут жыве Ратару, у яе сухоты. Тут выпіваў Купрын, там — Бунін. Тут Чэхаў пажартаваў — убачыў у васьветленым начным вакне жаночы профіль і гучна кажа спадарожніку: «А вы чулі? Учора Буніна ў вадной татаркі зарэзалі».

Лівадзійскія могілкі зусім блізка, аднак ты ўсё адно ўпарта павернеш у іншы бок і выйдзеш на ўзьбярэжжа — да тых самых фатографаў, да музыкаў, што могуць і «Come together», і палянэз Агінскага, да вогненназадай мартышкі, да пітона, да варажбітак і прадказальнікаў, абстаўленых кампутарамі, якія, апрача ўсяго іншага, выдаюць табе навукова абгрунтаваныя зьвесткі, што ты памёр 23 лютага 1988 году, да херасу, да афіцыянткі з кляснымі нагамі й распусным разрэзам вачэй, зь якой шмат хто хацеў бы спаткацца зусім не на вуліцы, да плюшавага прэзыдэнта СССР, да ўсіх тых, з кім разам ты ляціш сёньня да зор... А ў чарцы цёмнай і глыбокай будзе зноў і зноў сьветлым хмелем калыхацца віно і, ускараскаўшыся на гару, ты, палохаючы Ашота зь Зінай і ўкормленых літфондаўскіх катоў, будзеш чытаць з начнога гаўбца: «Скарына, доктар лекарскіх навук, У доўгай вопратцы на вежы сочыць зоры...»

І набяжыць новы дзень, калі ты будзеш плаваць па цёплым, як калюжына, моры, і думаць, ці шмат было ў Максіма ў Ялце жанчын, і, чуючы абураны хор дбайцаў пра паэтавую цнатлівасьць, будзеш раіць ім пачытаць Максімаў дзёньнік. Потым ты наведаеш Лівадзійскі палац, дзе адпачываў расейскі імпэратар Аляксандар II, у якога кінуў бомбу твой суайчыньнік рэвалюцыянэр Ігнат Грынявіцкі, і зусім па-клясаваму й па-пралетарску ў памяці ў цябе застануцца не эксплюататарскія інтэр'еры, а букет ружаў у палацавай прыбіральні.

А недзе на ўзьбярэжжы ў гэты час будзе кімарыць на сонейку падобны да таварыша Краўчанкі пітон, яшчэ ня ведаючы, што адвячоркам да ягонага гаспадара падыйдзе аматар экзатычных фоткаў — загарэлы мацак у вадных шортах і з такой шыкоўнаю татуіроўкай, што здалёк яна будзе выдаваць на бэзавую кашулю. Усьцешаны фатограф абкруціць свайго смарагдавага кампана вакол мацака й замітусіцца каля апарату, а ты разам з натоўпам будзеш захоплена разглядаць татуіроўку, на якой у непрыстойнай блізкасьці зь Ільлічом ды іншымі выдатнымі кіраўнікамі Камуністычнае партыі й Савецкай дзяржавы будуць выстаўляць свае вабноты прыгажуні з падпісанымі ўнізе йменамі. Ты будзеш думаць пра час, калі давядзецца

Хто ж і як можа выкрываць КРАСУ, якая ўтоена ў-ва ўсіх бадай праявах жыцьця? — На гэта, ведама, трэба быць мастаком, але й мастаку КРАСА не даецца так проста: і мастак можа выявіць КРАСУ толькі СЬВЯДОМАЙ ПРАЦАЙ.

Ведама, запраўдны мастак мусіць мець у сабе — побач з творчымі здольнасьцямі — *вялікае духовае багацьце*, каб было што выяўляць у ягоных творах. «Пекна сьпяваюць і жабы» — кажа ў адным вершу Багдановіч, гаворачы аб творчасьці паэты; але гэта — ня тая КРАСА, ад якое — як кажуць — *душа расьце ў чалавека*. Сваю ўласную духовую КРАСУ, таксама як і ўбіраную з вонкавага сьвету, мастак працай сваёй узьвялічае. І трэба думаць, што наш Паэт меў наўвеце самога сябе, калі ў ведамай сваёй «Эпістале» да п.Ластоўскага выступіў у абароне Сальеры, прадстаўленага Пушкіным у вельмі благім сьвятле ў драме «Моцарт і Сальеры».

*... здаецца мне, што тут*
*Сальеры атрымаў несправядлівы суд,*

— кажа Багдановіч і дае вельмі характэрны для яго самога аналіз творства Сальеры:

*Халодным розумам праняўшыся, натхненьне*
*Ён мусіў тым губіць, — так кажа абвіненьне.*
*Сальеры ў творчасьці усё хацеў паняць,*
*У-ва ўсім упэўніцца, усё абмеркаваць,*
*Абдумаць спосабы і матэр'ял і мэту —*
*І горача любіў сваю сьвядомасьць гэту.*
*У творчасьці яго раптоўнага няма.*
*Аснова да яе — спакойная дума.*
*Але, але... Аднак, што шкодзіць тут*
*натхненьню?*
*Прыемнае дае Сальеры уражэньне.*
*Падобны зьнічцы ён: у іскрах, над зямлёй,*
*Яна ўзразае змрок лукою залатой,*
*Гарыць, бліскучая, уся ў агні нясецца,*
*А ў глыбіні сваёй халоднай астаецца.*

*Уменьне да ігры Сальеры здабываў*
*Праз мерны нудны труд; ці спраўды забіваў*
*Ён гэтым талент свой, як бачна з думак драмы?*
*Адкажа йскрыпка вам. Стакатто, фугі, гаммы*
*Шмат год калісь на ёй Сальеры вывадзіў*
*І моцна йграньнем тым іскрыпкі зык зьмяніў.*
*Ямчэй яна гудзіць. Пявучых згукаў сіла*
*Праз доўгія гады яе перарабіла,*
*І тымі сьпевамі уся напаена*
*Навекі чулаю зрабілася яна.*
*Няўжо-ж душы жывой маглі-бы зыкі сьпева*
*У Сальеры не зьмяніць, калі зьмянілі дрэва?!*

*Не! Працай гэтаю сябе ён разьвіваў.*
*Сальеры — верны раб, каторы не схаваў*
*Свой талент у зямлю. Хай судны час настане, —*
*Спакойна Музе ён і проста ў вочы гляне,*
*І будзе за любоў да здольнасьці сваёй*
*Апраўдан Музаю і ўласнаю душой!*

*«Так робіш ты, дума, і у паэта*
*Красьнейшым кожны твор. Прывет табе*
*за гэта!»*

*

Так на творчай ПРАЦЫ ўсё мастацтва сваё будаваў і Багдановіч, бо не было ў ім тэй выбуховай творчай сілы, якой надзяліла прырода мо шчасьлівейшых за яго слуг КРАСЫ, што занялі першае месца на нашым Парнасе, як Купала і Колас, каторым так назьдзіў лёгка ўсё даецца...

Што-ж дае чалавеку ўзамену за ТВОРЧУЮ ПРАЦУ, за ТВОРЧЫ ВЫСІЛАК і МУКІ ТВАРЭНЬНЯ — твораная ім КРАСА?

Максім Багдановіч у гэтым пытаньні рэзка разыходзіцца з англійскай школай эстэтаў другое паловы XIX сталецьця (Спэнсэр, Грант-Ален), якая зачатак красы бачыць у ЗАДАВАЛЬНЕНЬНІ ад дасягнутае КАРЫСЬЦІ. Паводле думкі Багдановіча, КРАСА па-за эстэтычнай эмоцыяй, якая павышае ў нас жыцьцёвы тонус, не дае ніякае іншае карысьці... Хто не здаволіцца ЗАВАРОЖАНЬНЕМ АД КРАСЫ, хто выцягне руку па нейкую КАРЫСЬЦЬ, той і красу згубіць, і карысьці не дасягне...

Ясна, што, маючы задачай быць «СПАЖЫТКАМ ДЗЕЛЯ ДУШЫ», даваць ЭСТЭТЫЧНУЮ ЭМОЦЫЮ і гэтым выклікаць у нас РОСТ ДУШЫ, — КРАСА НЯ МОЖА СЛУЖЫЦЬ ІНШЫМ БАГОМ. І мастаку зусім усё роўна, хто будзе карыстацца яго творам і зяклятай у ім КРАСОЙ.

Як-жа — мо хто спытаецца — пагадзіць гэтае выключнае служэньне КРАСЕ з тым, што ў творах Багдановіча сустракаем і вельмі яркія грамадзкія — адраджэнскія матывы? — Ды вельмі проста: бо-ж мастацтва, як спосаб САМАВЫЯЎЛЕНЬНЯ МАСТАКА, выяўляе і ўсе ягоныя ІМКНЕНЬНІ, ПАРЫВАНЬНІ, ІДЭАЛЫ. Грамадзкія матывы, заклікі, ідэалы могуць складаць ЗЬМЕСТ мастацкага творства, могуць служыць магутным ПАБУДЖЭНЬНЕМ да тварэньня, але ня могуць дыктаваць сваіх законаў КРАСЕ. І мастацтва, якое — маючы перад сабой тыя ці іншыя грамадзкія мэты — забылася-бы хоць на адзін мамэнт аб тым, што Істотай яго зьяўляецца буджэньне ЭСТЭТЫЧНАЕ ЭМОЦЫІ, такое мастацтва страціла-б адразу і ўвесь свой сэнс, і сваю чарадзейскую сілу, што прымушае мацней біцца сэрцы людзкія, і сваю ўладу над душамі...

*Вільня, 12 студзеня 1927 г.*

# *Лісты з Амэрыкі*

Лявон Луцкевіч

**10 гадоў таму перад 90-годзьдзем М.Багдановіча мы з жонкай атрымалі два лісты ад маёй стрыечнай сястры Яніны Шабуні-Кахаяоўскай, якая жыве ў ЗША. 30 чэрвеня 1981 году яна пісала:**

*«Нас цікавяць некаторыя рэчы адносна М.Багдановіча, дакладней, таго пэрыяду, калі ў 1911 г. ён гасьцяваў у Ракуцёўшчыне... Можа Ты ведаеш, хто тады гаспадарыў у фальварку, ці былі там дзеці, асабліваасьці характару гаспадара? Гэта, напэўна, быў брат нашай бабкі Зофіі Лычкоўскай з дому, а я памятаю толькі ейную сястру Ядвісю... Мама расказвала, што Максім тады жыў у малым дамку ў садзе. Ці захаваўся гэты дамок?»*

**Яніне я неадкладна адказаў, паведаміўшы з жалем, што дамок, дзе жыў Максім, не захаваўся, быў разбураны падчас апошняй вайны. Таксама я прасіў яе напісаць больш падрабязна пра ўсё, што яна памятае з аповядаў маці — маёй цёткі Эміліі. І вось 17 жніўня Яніна даслала нам другі ліст:**

*«Тое, што я памятаю з апавяданьняў мамы аб тых падзеях у Ракуцёўшчыне ў 1911 годзе — гэта малавартасныя ўспаміны, больш рамантычнага, як літаратурнага ці гістарычнага зьместу.*

*Мама расказвала, як у Максіма закахалася цётка Ядвіся, рабіла маме сцэны зайздрасьці і казала: «Калі я яму прапаную шклянку гарбаты, ён ня п'е, а калі ты — ніколі не адмаўляецца!»*

*Максім насіў бараду, каб у свае 19 год выглядаць салідней, меў вельмі прыгожыя рукі... У тыя часы ўся моладзь захаплялася расейскім паэтам Надсанам, у тым ліку і мая мама. Багдановіч жа, наадварот, крытыкаваў яго, казаў, што Надсан піша на эратычныя тэмы. (Я думаю, што ў творчасьці Багдановіча было пазьней больш эротыкі, чымся ў Надсана.) Максім захапляўся краявідамі Ракуцёўшчыны, штодня цэлай грамадой хадзілі на спацыр. Мяне ён нёс на руках і расказваў казкі, якія я, на жаль, ня памятаю. За стол сядалі ўсе разам у «вялікім» доме, і жанчыны пільна сачылі за тым, на каго больш глядзеў і да каго ўсьміхаўся Максім. Сваю хатку ён вельмі любіў, казаў, што там яму добра пішацца.*

*Мама казала, што Максіма запрасілі «хлопцы», г.зн. Антон зь Іванам, дзеля таго, што ён ужо тады быў хворы на сухоты, лекары раілі яму быць на сьвежым паветры, добра харчавацца і казалі, што калі ён дажыве да 25 год, то будзе жыць. Аднак, як бачым, сталася йначай!"*

**М. Багдановіч адыйшоў, калі яму яшчэ ня споўнілася 25...**

**Нарэшце — невялікі камэнтар, неабходны пры публікацыі гэтых лістоў з Амэрыкі.**

**Скончыўшы ў 1911 годзе гімназію ў Яраслаўлі, М.Багдановіч у палове чэрвеня накіраваўся ў падарожжа на сваю радзіму. Маршрут быў гэткі:**



**Вільня — Ракуцёўшчына, — і праз Вільню назад у Яраслаўль. У Вільні паэт спыніўся ў рэдакцыі *Нашай Нівы*, тамака й начаваў. Ім апекаваўся В.Ластоўскі, які жыў пры рэдакцыі й быў яе сакратаром. «Хлопцы», пра якіх згадвае Яніна, — гэта яе дзядзькі Іван і Антон Луцкевічы. Яны запрасілі М.Багдановіча ў Ракуцёўшчыну да свайго роднага дзядзькі Вацлава.**

**Людзі, сярод якіх паэт жыў два летнія месяцы: гаспадар хутара Ракуцёўшчына Вацлаў Лычкоўскі, якому тады было ладна за 70 гадоў. Ягоная сястра Ядвіся Русецкая — удава, значна маладзейшая за яго. Ёй тады было пад пяцьдзесят, і яна яшчэ неабыякава глядзела на маладога госьця. Іх пляменьніца Эмілія прыехала зь Менску з дачкой, каб адпачыць і падмацавацца на сельскіх харчах. Ёй было гадоў 25, дык ня дзіва, што Максім часьцей усьміхаўся да яе. Яе дачка — тады двухгадовая дзяўчынка — гэта й ёсьць тая Яніна, ад якой гэтыя лісты. Неўзабаве, 26 лістапада, ёй споўніцца 82 гады. Цяпер яна жыве ў Нью-Ёрку. Вацлаў памёр у пачатку дваццатых гадоў, Ядвіся — у 1942 годзе; абое пахаваныя на могілках у мястэчку Краснае. А Эмілія памерла ў 1974 годзе ў Ню-Ёрку. Малы дамок у садзе цяпер, да 100-годзьдзя паэта, адбудаваны і ў ім разьмешчана экспазыцыя; мяркуецца рэканструяваць і вялікшы дом хутара, зрабіць у ім мэмарыяльны музэй Максіма Багдановіча.**

Вільня, 12 верасьня.

падпісваць і правадыроў, і раптам у паветры запахне ня толькі алеандрам, але й скандалам. Мацак пачне зьлякана азірацца й дзіўнавата тузацца. Што падзейнічае на пітона, застанецца загадкаю: ці то ён будзе прыхільнікам бальшавіцкай плятформы ў КПСС і абурыцца суседзтвам правадыроў з цыцкастымі вярціхвосткамі, ці то спрацуе інстынкт вольных ад эксплюатацыі фатографамі продкаў, але вынікі будуць відавочныя: татуіроўка стане бачная лепей, а ейны гаспадар зьбялелымі вуснамі вымавіць: «Сними змею». Зьляканы фатограф аберуч ухопіцца за пітонаў хвост і пачне ліхаманкава адкручваць зялёныя кольцы. «Адресок! Адресок!» — закрычыць ён наўздагон уратаванаму мацаку, а той істэрычна выгукне цераз плячо: «Пошел ты со своей змеей на х..!»

Чамусьці менавіта ў тую хвіліну ты вырашыш: сёньня...

Валошак на ялцінскім рынку ня будзе, і ты купіш букет вялікіх, пабітых начным дажджом рамонкаў. Прыватнік завязе цябе на гару колеру прывялага ляўровага ліста й высадзіць ля брамы старых Лівадзійскіх могілак, а п'янаваты вартаўнік растлумачыць, што трэба йсьці па стрэлках, якія паказваюць шлях да магілы нейкага Бірукова. На адным з паказальнікаў пад словамі «К могиле Бирюкова» зусім па-беларуску будзе цьвіком надрапана: «і М.Багдановіча», і ты ўдзячна падумаеш, што, можа, гэта зрабіў наш міністар культуры, калі быў тут у траўні са сваёй дэлегацыяй, адзначаючы ўгодкі Максімавай сьмерці...

На магіле ты ўбачыш стандартную цэмэнтаваную пірамідку зь пяціканцоваю зоркай, якая, мусібыць, значыць, што — каб не сухоты — Багдановіч атрымаў бы парцейную кулю ў патыліцу адзін зь першых. Ты ўбачыш, што нейкі мастак замаскаваў зорку намаляванай зьверху валошкай, а таксама ўбачыш бел-чырвона-белую харугвачку, дзюбаты алюміневы імбрычак са збуцьвелымі кветкамі й яшчэ чатыры валошкі — капронавыя.

Казаць пра астатняе табе будзе няёмка. Магчыма, ты прачытаеш сам сабе «Пагоню», магчыма, пагаворыш зь ім і нешта дакляруеш — яму й сабе...

Пасьля ты памяняеш ваду ў імбрычку, напішаш пад слупком датаў на харугвацы сваю й пойдзеш, разы тры азірнуўшыся на адвітаньне, сьцежкаю да брамы з думкай, што яму добра ляжаць тут, над морам, у засені старога кіпарысу, у краіне сьветлай, дзе суха, цёпла й не чуваць узьнёслых прамоваў міністраў, намесьнікаў і загадчыкаў нашае культуры: «Удзячные нашчадкі сабраліcь, штоб адзначыць...»

Жыцьцё ў творчым доме будзе каціцца сваёй каляінаю. Перакладчык Ашот будзе круціцца вакол гнуткай ташкенцкай жыдовачкі Розы. На ганку сталоўкі будуць лайдакавата даядаць літфондаўскія секунцы дзесятка паўтара катоў. Ад творчага перанапружаньня паваліцца на газон паўночнаасяцінскі драматург. А з-за Максімавай гары выпаўзе булгакаўская хмара з бліскавіцамі ("Дзесь у хмарах жывуць павукі, што снуюць павучыну дажджа...") і зьнячэўку ўпадзе на горад смужыстаю непраглядпай залевай, каб праз гадзіну пакінуць па сабе неверагодна празрыстую ноч, празь якую далёкія агні на схілах будуць зьзяць, быццам калядныя зоркі.

Ноч будзе поўная паўдзённых пахаў, юрлівага ёкату літфондаўскіх катоў і дзіўных гукаў зь ніжняга гаўбца ("Жыцьцё чуваць з усіх старон, жыцьцём напоўнены ўвесь змрок..."), зірнуўшы куды, ты міжволі ўбачыш, як перакладчык Ашот і жыдовачка Роза стоячы займаюцца любоўю.

У гэтую ноч ты будзеш пачувацца ў згодзе з усім сьветам: з катамі, з армянскім калегам, з Розай, якой ты гатовы будзеш прысудзіць званьне ня толькі «міс Дом творчасьці», але й «міс СССР»...

У гэтую ноч ты дасі веры, што недзе сапраўды ёсьць Беларусь, дзе жывуць беларусы. Ты будзеш пэўны, што з такой самай думкай ляжаў на Божай пасьцелі й Максім Багдановіч. Таму што ён прыехаў сюды, каб у свае астатнія дні мець ня толькі сонца ды сінюю бухту, але й — Беларусь. Бо яна ў параўнаньні зь любой іншай краінаю мае адну асаблівасьць: існаваць адно тады, калі ты ад яе ад'едзеш, калі будзеш хадзіць сярод чужаніцаў, пакуль табе нарэшце ня здасца, што і ў вас усё, як у людзей.

Твая Беларусь праіснуе, пакуль ты ня выйдзеш з самалёту.

З куплёнае ў аэрапартаўскім шапіку расейскае (бо іншых тут нямашака) газэціны ты даведаесься, што Ніна Андрэева праводзіць у Менску зьезд сваіх пячорных бальшавікоў. Сярод сваёй пошты ты знойдзеш акуратна ўскрытую бандэролю з Таронта, ад беларускага нацыяналіста і, як піша дасьведчаны недзе беларускі пісьменьнік Барыс Іванавіч Сачанка, гітлераўскага паслугача (які чамусьці служыў Гітлеру, ваюючы супраць таго ў войску саюзьнікаў), а таксама знойдзеш абы-як разадраную капэрту зь лістом ад беларускага нацыяналіста зь Вільні, які не пасьпеў паслужыць гітлераўцам, трэба меркаваць, толькі з тае прычыны, што позна нарадзіўся. Ты зойдзеш у краму, і разьлезлая злая кабеціна параіць табе гаварыць «па-чалавечаску нармальным языком» і, пашкадаваўшы, растлумачыць, што «это называіцца сахер». І хутка, вельмі хутка прыйдзе хвіліна, калі ніякае тваё пачуцьцё ня здолее зраўняцца сілаю з тваёй зайздрасьцю да Максіма, які ляжыць над морам, і ягоная душа зьлятае пад кіпарысы, верачы, што недзе ёсьць Беларусь і даруючы гэтую веру тым, хто мяняе ваду ў алюміневым імбрыку.

Прыкладна ў той самы час удзячныя нашчадкі, пакрываючы помнік белай татуіроўкаю, будуць пісаць на бронзавым менскім Максіме, што «чеснок полезен для здоровья» і даваць суайчыньнікам іншыя «полезные советы». А праз дзень да цябе зьявіцца нацыянальна заклапочанае дзяўчо з даўжэзным сьпісам подпісаў: не за тое, каб паставіць на ялцінскай магіле прыстойны помнік бяз зорачкі, а за тое, каб раскапаць паэтаву магілу і, хоць ён ніколі нас пра гэта не прасіў ("І разрытаю магілай вее сумна на мяне..."), прывезьці Багдановічавы косткі ў Менск, дзе нашчадкі займеюць мажлівасьць пісаць «полезные советы» яшчэ й на надмагільлі.

Ты будзеш марудзіць, перачытваючы знаёмыя прозьвішчы, і дзяўчо пакрысе пачне пазіраць на цябе, як на ворага беларушчыны, і ты, слабы чалавек, ня вытрымаеш і паставіш свой подпіс. Візытантка з палёгкаю пацягне паперу на сябе, але ты не аддасі й дапішаш побач з подпісам: «Калі Беларусь будзе Беларусьсю».

Дзяўчо падзякуе й пойдзе, цешачыся ад усьведамленьня значнасьці свае місіі. Ёй будзе няўцям, што, калі Беларусь сапраўды стане Беларусьсю, ніхто й не падумае прыходзіць на паэтавыя магілы ня з кветкамі, а з рыдлёўкай.

Ліпень, 1991.

# Вольныя дзеці няволі

Алег Аблажэй

І зноў — каторы раз — мы сьпяшаемся на свой цягнік; мы нават ня ведаем, куды ён ідзе — кажуць, што ў Эўропу; але дзе тая Эўропа — на ўсходзе ці на захадзе, на поўначы? — цягнік ужо адыходзіць, а ў нас не спакаваныя рэчы; мы мітусімся — што браць, што пакінуць, што выкінуць; пакідаем Маркса й запіхваем Ніцшэ, а ён ня лезе; рашуча адкідаем У.І.Леніна, але ён ўсё адно застаецца — у паперніку, на дзесятках, на пашпарце, каля сэрца; кнігі пра Вечную Асалоду перамяшаныя з кнігамі пра смачную й здаровую ежу; похапкам шукаем сваё — нашу гісторыю, нашых дзеячоў, нашых князёў — нашых князёў ужо нехта ўзяў — бярэм Скарынаву Біблію, дзе яе не прачытаць, яна маўчыць; возьмем яшчэ... шмат возьмем, і ўсё гэта ня трэба будзе прасьвечваць мытнікам, бо й так сьвеціцца ад радыяцыі; валізка не зачыняецца — пераважам бел-чырвона-белаю стужкай і — у дарогу...

А можа, на самай справе мы ўсе ўжо сядзім у нейкім Вечным Цягніку, і рэйкі даўно пракладзеныя, і вядома, на якой станцыі нам сыходзіць — вядома ня нам, вядома?..

І Бог глядзіць на ўсё гэта ледзяным позіркам Настрадамуса.

І хто сыходзіць — той сыходзіць назаўжды.

*Яцьвягі зьніклі. І навечна*
*Замоўклі прусы. Ды не павінны*
*Пытаць мы ў Госпада — завошта і чаму;*
*Так дзікі куст шыпшыны*
*Ня ведае садоўніка задумкі,*
*Як выглядацьме сад, яму ня дадзена*
*Ні зразумець і ні акінуць вокам*
*Ці нават сотняй кветачак-вачэй.*
*І нас ня стане. Усе мы, беларусы,*
*Апошняю шыпшынай дацьвіцем,*
*Апошнімі пялёсткамі ўпадзем*
*На плян няўмольны Пана Бога.*

Клетка расчынілася — а ў нас няма крылаў; можна калі ня вылецець, дык выбегчы, выйсьці, выпаўзьці, але большасьць з нас ня бачыць, дзе выйсьце і ці ўвогуле йснуе Клетка...

*Бо ты жывеш ня ў доме — а ў сабе;*
*Ты — сам свой дом, дзе сьцены — твая памяць,*
*Што можа быць і замкам, і палацам, і турмой...*

*І ўсё, што там табе належыць — не тваё.*

Магутная рука Віцязя са зьнявечанымі пальцамі ўжо рыхтуецца цьвёрда й рашуча зноў зачыніць дзьверкі... Але ён яшчэ спадзяецца, што мы зробім гэта самі.

Калісьці мне давялося быць у Грузіі; глыбокай ноччу я йшоў адзін па дарозе. Стаміўшыся, прысеў на бэтонны слупок ля дарогі, пасьля зірнуў уніз і здраньцьвеў — пада мною была прорва, зь дзесяціпавярховы дом... Мы ўсе былі на ўскрайку бездані ў той Панядзелак; але зьнешне ўсё было так звычайна, так будзённа: сьвяціла сонейка, па вуліцах хадзілі дзяўчаты ў максі-, міні- й мікраспадніцах; хлопцы з модна — ромбікамі — пастрыжанымі патыліцамі...

Ніхто з нас ня можа сказаць, што ён да канца ўсьвядоміў, ШТО адбылося, які пералом, які парог мы пераступілі; мы ўбачылі толькі бліскавіцу — гук грымотаў усё яшчэ йдзе да нас, і мы чакаем, мы нікуды ня можам падзецца...

*Мацней, чым дрэвы да зямлі карэньнем,*
*Мы прыкаваны датай нараджэньня*
*Да жорсткіх, безнадзейных і адчайных*
*Сваіх часоў. Чыгуннае ядро эпохі*
*Заўсёды з намі. І на ланцугу*
*Кроў наша зьмешана зь зямлёю нашай.*

А мы — хто ёсьць МЫ? Хто — ЯНЫ? А можа, МЫ і ёсьць ЯНЫ, і наадварот?

Мы напоўненыя, насычаныя НЕ СВАІМ, яго нельга скінуць, як апратку, яно ў нас, яно наша складовая частка, яно нас вызначае, як пігмэнт скуры, як колер зрэнак, і мы адмываемся, адшкрабаемся; каб ня быць падобнымі да аднаго суседа, мы крадзем у другога ягоныя словы; але ўсё адно яшчэ слова ЯНЫ вымаўляецца як ЕНЫ...

Я — гэта слова, адмытае ад МЫ.

І ўсё ж такі — нешта прарастае і ў нас, і народ пачынае гаварыць. Бо народ гаворыць тады, калі ён маўчыць на плошчах.

І тое, што здавалася такім моцным, такім пагрозьлівым — здраньцьвела, зьніякавела, і хто быў магутны — стаў бясьсільны, можа й часова. Пытаньне толькі — ці мы будзем рухацца самі, ці нас будуць перасоўваць іншыя? Дзе наш кароль, а дзе — чужы?

*О, шахматы — вы чорна-белая мадэль*
*Жыцьця шматколернага. Складаны шлях*
*Фігур, што бы ў нябачным лябірынце*
*Блукаюць і змагаюцца, каб выйсьці*
*Да перамогі, славы, велічы, трыумфу...*
*Але гульня сканчаецца. І ўсіх —*
*І пераможцаў, і прайграных*
*Зьмятаюць у нябыт —*
*Да ўваскрашэньня*
*ў наступнай партыі...*

Але наша гульня толькі распачалася. Так, мы — дзеці няволі. Але мы ўжо вольныя.

1990-91 г.

# *Што чытаюць у Менску?*

Алесь Ас.

**Што цяпер чытаюць людзі культуры й людзі палітыкі, ад якіх проста ці ўскосна залежыць, што будзе заўтра ці — што было ўчора? І проста цікавыя людзі Беларусі — што цяпер чытаюць? Вось вынікі майго невялічкага апытаньня.**

* * *

**Уладзімер Арлоў. Што Вы цяпер чытаеце з таго, што можна назваць літаратурай?**

— Учора прачытаў №2 *Нашае Нівы*. Гэта — літаратура. «Занатоўкі мастака» Глёбуса і ўсё астатняе. А апавяданьне Алега Мінкіна мяне натхніла, я сеў і напісаў увечары аповяд «Старыя Лівадзійскія могілкі», які спадзяюся надрукаваць у вадным з вашых нумароў. Ну, а з кніжак — зноў жа перагукаецца з *Нашай Нівай* — гэта Борхес...

* * *

**Генадзь Грушавы — у ватачэньні людзей насупраць фонду «Дзеці Чарнобыля», што на Траецкім прадмесьці. Ён не бянтэжыцца:**

— Апошняя кніга, якую прачытаў, — «Роза мира» Андрэева. Чалавек пісаў сваю кнігу ў сталінскіх лягерох амаль 15 гадоў... І яшчэ, я чытаю Максіма Багдановіча — гэта мой найбольш любімы паэта.

* * *

**У рэдакцыі *Спадчыны* гамана. Зваблiваю ў калідор Вінцука Вячорку:**

**— ... з таго, што можна назваць літаратурай?**

— Нічога. Я чытаю выключна палітычную публіцыстыку, аналітыку. У прыватнасьці, зараз я ахвотна чытаю ворган польскае лібэральна-дэмакратычнае партыі часопіс «Арыентацыя направа». Праўда, у паганскай вандроўцы я з задавальненьнем перачытаў любімага мною яшчэ са школьных гадоў Данііла Хармса.

* * *

**Кастусь Тарасаў:**

— Я чытаю «Гісторыкі антычнасьці», і лічу на сёньня гэтую кнігу адной з найлепшых, напісаных за дзьве тысячы гадоў. Я зразумеў: за гэты час мала што зьмянілася, калі браць глыбіні чалавечае псыхалёгіі. І мне вельмі сумна... Гэта больш цікава, чым сёньняшняя літаратура, якая грунтуецца на рознай псыхалягічнай драбязе. А там людзі адчувалі чалавека ў космасе й глядзелі на жыцьцё інакш.

* * *

**Алесь Бяляцкі — у сваім дырэктарскім кабінэце:**

— Прачытаў «Моя жизнь» Льва Троцкага. Каб не палітыка, зь яго атрымаўся б файны літаратар. Але калі ў сярэдзіне кніжкі мне яго было амаль шкада, то ў канцы я зразумеў, што ён такая ж сволач, як і ўсе яны.

* * *

**«Астатні грош». Зь Віктарам Івашкевічам мы стаім у чарзе па каву. З усіх бакоў на нас кідаюць цікаўныя позіркі.**

— Што чытаю? *Нашу Ніву* й *Навіны БНФ*. Вось толькі сёньня прачытаў. А яшчэ... «Новая гісторыя краін Азіі й Афрыкі». Я люблю гісторыю і наогул, як палітычнаму функцыянэру, мне гэта дае розныя аналёгіі ды параўнаньні.

* * *

**Зянон Пазьняк. Што Вы чытаеце зараз ці прачыталі за апошні час?**

— Палітычную літаратуру.

**— А больш канкрэтна?**

— Што больш канкрэтна называць... Сьмешна будзе, калі я пачну Вам гэта гаварыць. «Ленін і ВЧК», «Ленін і армія», «Перапіска Леніна з 1917 па 1922 год». Вось канкрэтна апошні тыдзень займаюся гэтым. Такі фокус. (Сьмяецца).

**— А якія ўражаньні?**

**— Якія ўражаньні?! Гэта не таму, што мне хочацца гэта чытаць, а таму, што трэба. Гэта мая работа.**

* * *

**Паліна Качаткова — малады празаік. Паліна, што Вы чытаеце?**

**— Я прачытала зараз апавяданьне Кінга «Мэнглер».**

**— А што Вы можаце сказаць пра гэты твор?**

**— Я магу сказаць, што гэта кляснае апавяданьне пра тое, як д'ябал усяліўся ў сушыльны станок.**

* * *

**Мікола Купава сьпяшаецца й хоча адчапіцца ад мяне:**

— Што за пытаньні такія несур'ёзныя? У мяне часу няма, ды я вас і ня ведаю.

**Урэшце дамовіліся пагаварыць пазьней.**

— Прачытаў *Нашу Ніву*. Сапраўды спадабалася. І ўвогуле, зараз ёсьць што чытаць, багата чаго зьявілася. І Казімера Сваяка, і Гаруна прачытаў зараз, «Лябірынты» Ластоўскага. І хоць я не перачытваю кнігі, бо на гэта не хапае часу, але жыцьцё прымусіла, і я зараз чытаю «Хама» Ажэшкі. Бо сяджу ў майстэрні й чую размову: разважае нейкі польскі рэжысэр, які тут ставіць фільм паводле Караткевіча, «Сівую легенду». І мяне абразіла ягонае выказваньне, што падзеі адбываюцца ў польскім асяродзьдзі на фоне беларускага народу. І — спасылка на «Хама». Вось я й вырашыў аднавіць для сябе, што гэта за пальшчызна такая. Ну, і яшчэ штудзірую «Гісторыю беларускага мастацтва».

* * *

**С.Сокалаў-Воюш відавочна задаволены жыцьцём.**
— Для *Нашай Нівы* пару пытаньняў?
**— Так. Што ты прачытаў за апошні час ці чытаеш зараз?**
— *Нашу Ніву*.
**— А яшчэ?**
— А яшчэ ёсьць што вартае чытаньня?

* * *

**З Адамам Глёбусам мы палім на ганку.**

— Я чытаю толькі сяброў, **— кажа ён.** — А з замежнай літаратуры я чытаю Леанарда Шаша, ёсьць такі выдатны італійскі пісьменьнік, піша пра мафію, пра мафіёзі...

* * *

**Ну, дык што ж чытаюць цікавыя людзі? Пісьменьнікі чытаюць мастацкую літаратуру, гісторыкі — гісторыю, палітыкі чытаюць палітычныя матэрыялы, грамадзкія дзеячы — літаратуру моцнага гучаньня. Кожнаму сваё.**

**Дарэчы, у пацьверджаньне сказанага: Анатоль Сідарэвіч чытае кніжку «Вілі Брант». Я хоць і не пытаўся, але сам бачыў.**

# Лісты пра сучасную літаратуру

Франьцішак Эн.

0.

Шаноўная Людміла К.

Рэдакцыя *НН* зьвярнулася да мяне з досыць дзіўнай прапановай. Спасылаючыся на Ваш артыкул у *ЛіМе* «Агрэсія формы», дзе Вы пішаце пра маладую беларускую прозу, перадусім «эўрапеісцкую», але таксама і пра А.Федарэнку, і ведаючы маю схільнасьць да літаратурнага сьпірытызму, рэдакцыя прапанавала сабраць за круглым сталом вялікіх прывідаў, каб яны праэксплертавалі Ваш тэкст на арыгінальнасьць, таленавітасьць, эўрапейскасьць і г.д. Ішла гутарка і пра канкрэтны сьпіс імёнаў: Эдгар По, бітнікі, Мілаш Форман, Джойс, Кафка, Дастаеўскі. З новых вырашылі запрасіць Жака Дэрыду. Але, узважыўшы ўсе «за» і «супраць», я адмовіўся. У Эдгара По цяжкі характар, Кафка і Дастаеўскі дастаткова напакутаваліся пры жыцьці, а Дэрыда, дзякаваць Богу, пакуль жывы. Але нават калі б і мёртвы — усё роўна! Адно зь ягоных найбольш ужываных у літаратурных дыскусіях слова — аргазм, геніяльны дэканструктывіст размахвае ім направа й налева. Мне нават страшна ўявіць, як бы ён праінтэрпрэтаваў Вашыя «стылёвыя пошукі». А потым бы напісаў тэкст — напрыклад, «Агрэсія крытыкі» — дзе б абвінавціў Вас у тым, што Вы... як гэта сказаць... «паймелі» ўсю маладую беларускую прозу. Ваш стыль (яны кажуць — дыскурс) стаў бы аднаэначна «аргазьмістычным», а цытата са Стаха Дзедзіча пра зьліаньне й разьгінаньне, стогны й варушэньне, цёплае й ліпкае назаўсёды ўвайшла б у эўрапейскі эратычна-філязофскі канон. Ня ведаю, як бы ён праінтэрпрэтаваў Ваш сьмех, на жаль, Вы прызналіся публічна, што падчас ГЭТАГА яшчэ й сьмеяцёся.

Але я адмовіўся.

Пытаньні, якія Вы ставіце, надзвычай цікавыя, яшчэ больш цікавыя тыя, што Вы абмінаеце, таму мне захацелася адрэагаваць іронію — яна агрэсіўная й не разумее сама сябе — і на пэўны час увайсьці ў сфэру клясычнага рацыё: «не сьмяяцца, ня плакаць, але разумець».

Першая рэч, пра якую хацелася б пагаварыць — гэта матывацыя творчасьці. Вы пішаце, што частка літаратараў «намерылася беларусізаваць тыя зь вядомых у сьвеце жанрава-стылёвых формаў, якія да апошняга часу ня ведала нашае прыгожае пісьменства». Атрымаўся «так званы эўрапеізм».

Трэба вельмі плытка разумець чалавечую сьвядомасьць, каб верыць у магчымасьць такіх матывацыяў. Так не бывае. У кожнага сваё, — і іншае. Для аднаго пісьменства — гэта унутраная эміграцыя, для другога — магчымасьць быць Пратэем, для трэйцяга — проста форма выжываньня. Але перш за ўсё гэта — досьвед, які не ўкладаецца ў межы сацыяльна-дазволенага, досьвед «трывожнай дзіўнасьці сьвету». Калі гэта немагчыма праігнараваць, зацісьнуць у падсьвядомасьць — чалавек пачынае пісаць. І тут ужо не да беларусізацыі «эўрапейскіх формаў». Формы напаўняюцца не беларускім зьместам, а суб'ектыўнасьцю творцы. Задача крытыка — знайсьці ў гэтай суб'ектыўнасьці і беларускасьць, і архетыповасьць, і што заўгодна. Але сам творца гэтага ня ведае й пра гэта ня думае. Для яго форма заўсёды нясе момант стабільнасьці, кансэрватыўнасьці. Яна ўпарадкоўвае і ўтаймоўвае, яе сынонім — культура. Яна ніколі не бывае агрэсіўнай.

Увогуле ж сёньня формы літаратуры стабільныя, як ніколі. Апошняя рэвалюцыя адбылася на пачатку стагодзьдзя й была зьвязаная з крахам манаполіі традыцыйна-псыхалягічнага раману, у якім аўтар усё ведае пра свайго героя, раскладаючы яго на палічкі сацыяльных ды эратычных памкненьняў. Мадэрнізм, як гэта ні парадаксальна, быў «высокім праектам», ён прапанаваў раман у якасьці інтэгральнай формы арганізацыі досьведу, сынтэзаваўшы прозу, паэзію, філязофію з тымі тыпамі пісьма, якія традыцыйна выносіліся за межы літаратуры. Сёньняшнюю сытуацыю звычайна апісваюць словам «постмадэрнізм»: гэта становішча, калі літаратурная рэвалюцыя немагчымая, бо нішто ня можа прэтэндаваць на ЦЭНТРАЛЬНАСЬЦЬ; у пэўным сэньсе гэта канец эўропацэнтрызму, калі

## Адам Глёбус

### Цыган

Я душу на пясок растаўку,
Не прадам гадам-цмокам волю,
І траву апяку кроўю-сольлю,
Нож халодны аддам жабраку.

Упаду пад сухую сасну,
Пад самотную ў чорным полі.
З хрустам сьцісну кулак ла болю,
Вып'ю воцату і засну...

Я прайду праз уласны скон,
Як сьвятло працінае сон
І як падае зь неба камень.

Я прачнуся, вятры гудуць...
І зацісну я горла рукамі,
Каб сьмяротнага крыку ня чуць.

### Ты

Ты прыходзіш у цёмна-зялёныя дні
Ты прыходзіш у сьветла-зялёныя ночы.
Ты прыходзіш, і мы застаемся адныя,
У халодным пакоі ратуемся моўчкі.

Асалода лунае ў люстэрку крывым.
Асалода, што зрушыла лёс Левэркюна.
Пальцы ў цемры знаходзяць
напятыя струны.
Асалода пульсуе ў вагульнай крыві.

Ты сыходзіш у цемру чырвоных агнёў,
Забіраеш адно безнадзейную стому,
Пакідаеш падзеньне з чырвонае
стромы.
На паверхні пульсуе агульная кроў.

### Пацалунак

Каханкі цалуюцца на праспэкце.

У дзяўчыны за каўняром
хаваецца пацук,
Белы, з ружовым хвосьцікам.
Хлапечая рука ўзьнімаецца
І кладзецца на дзявочае плячо.
Пацук спалохана уздрыгвае —
Кіпці ўпіваюцца ў далікатную скуру.
У пацалунку — стогн.
Хлопец хапае пацука
І закідвае сабе пад кашулю.
На дзявочай шыі праяўляюцца
Пурпуровыя пункціры драпінаў...

Каханкі цалуюцца на праспэкце.

### Сон

Засынаю, ізноў засынаю,
Бо надзеі ніякай ня маю,
І ў жыцьці ўжо нішто не трымае...
Засынае душа, засынае,
Перарэзаная трамваем;
А вар'яцтва душу абдымае,
Закалыхвае і спавівае
Чорна-мутарным дымам адчаю...
Сон ізноў не прыходзіць ноччу,
Цемра выела мае вочы,
Пэўна, злыдзень мяне ссурочыў.
Зазьвінеў палахлівы званочак...

Прыпыніўся драпежны трамвай,
Невыносны навокал адчай.



Здымак Алены Адамчык.

### Вянок

У падземным пераходзе постаці
Цёмныя, атрамантавыя, густыя,
Абмытыя сьцюдзёным сьвятлом.
Цокат абцасаў. Шоргат падэшваў.
Храбусьценьне шкла ад пабітых
лямпаў.
Пераход доўгі зь нізенькай стольлю.
Людзі імкнуцца найхутчэй
пакінуць яго.

З-за рога выходзіць жанчына
З пахавальным вянком на руцэ.
Вянок звычайны, танны.
Тонкія дзераўляныя рэйкі.
Прапарафіненая папяровая лістота.
Крэпавая зьмяя стужкі.
Неахайныя белыя літары.
Ружовыя й цытрыновыя кветкі.

Спыняюся, нерухомею, камянею.
Жанчына праходзіць побач.
Вянок чыркае па маёй руцэ.
Ш-шы-ых — ледзь чутны гук-дотык.

У дзяцінстве мяне навучылі:
Не пераходзіць і не перабягаць дарогу
Перад жалобнай працэсіяй.

У падземным пераходзе
Людзі прысьпешваюць крок.

---

літаратура (сапраўдная) пісалася толькі ў Парыжы, Лёндане ці Бэрліне. Таму сёньня спасылацца на нейкі эўрапейскі аўтэнтык насуперак тутэйшым перайманьням — гэта ўзрываць цягнікі пасьля дзесяці гадоў Вялікага Міру, а пры гэтым гучна ганьбіць фармалістаў-імітатараў, якія замінаюць «сапраўднаму прагрэсу й наватарству» ў літаратуры... Ня ведаю... «Гісторый усяго чатыры», — сказаў Борхес. Які ўжо тут прагрэс!

Літаратура — гэта Вялікая Таўталёгія...

Але вернемся да маладой беларускай прозы. Па першым прачытаньні Вашага тэксту ўражвае тая лёгкасьць, зь якой Вы ставіце адзнакі, вызначаеце ступень таленавітасьці, арыгінальнасьці, альбо сьціпла канстатуеце «філялягічную вывучку». З гэтым не паспрачаесься — гэта Ваша. Ды потым пачынаеш зьвяртаць увагу на нейкія дзіўныя «праколы» ў канкрэтных аналізах праз увесь тэкст. Узьнікае просьценькае пытаньне — ці ведаеце Вы, пра што пішаце?

Напрыклад, Мінкін. Вы пішаце, што ягонае апавяданьне «Карова» — больш таленавіты пераклад Дж.Оруэла ці У.Голдзінга, чым арыгінальны твор. Дзівосы: як можна ставіць побач славутага антыўтапіста, для якога, аднак, пытаньне стылю проста не йснавала, і пасьлядоўнага да занудзтва нэаготыка Голдзінга? Да таго ж ані той, ані другі ніколі не былі апавядальнікамі — пры чым тут Мінкін са сваёй «Каровай»? Далей, — што такое «напісаная ў анталягічным жанры проза», я проста ня ведаю, але за Пушкіна й Ясеніна Мінкін, абяцаю Вам, пакрыўдзіцца, — гэта не ягоныя настаўнікі. Памыляецеся Вы і наконт Эдгара По зь бітнікамі, тыя анічым беларускай літаратуры не пашкодзілі. Наадварот, «пад Эдгара По» напісаныя, магчыма, найбольш дасканалыя тэксты ў беларускай літаратуры. Што тычыцца бітнікаў, тых ані ў варыгіналах, ані ў перакладах у СССР не пушчалі, і гэтым нас ад магчымых уплываў выратавалі.

Вашае «дыягназаваньне Мілаша Формана ў якасьці першаштуршка старажытнай мастацкай мэтафары» — таксама памылка, нават падвойная. Папершае, большасьць тэкстаў няшчаснага зборніка прозы маладых «пра вар'ятаў і вар'ятак» ("Перад маімі вачыма", Менск, 1990) былі напісаныя ў далёкія застойныя часы, — усе даты рэдакцыя проста зьняла — задоўга да таго, як бальшавікі дазволілі савецкаму народу глядзець «чужое пазадзьдзе» Джэка Нікальсана. Па-другое, у Кэна Кісі здаровыя людзі пераконваюць здаровых, што яны вар'яты, а ў нас тое самае спрабуюць рабіць хворыя. Заганы «Перад маімі вачыма» ня ў тым, што там зашмат пераймальніцтва, літаратуршчыны, а ў тым, што гэтага там амаль што няма. Усе тэксты (за выключэньнем А.Федарэнкі й Ю.Станкевіча, якія ґвалтам усаджаныя ў кнігу рэдакцыяй «Маладосьці») — гарадзкая дакументалістыка. На жаль.

У такой сітуацыі нават тое, што Глёбус усё ж «адкрыў нашую рэчаіснасьць» — не суцяшае — лепей бы ён яе закрыў. А калі я прачытаў, што «архетып у яго — толькі кантэкст, альбо падтэкст... і ў гэтым уся справа», — я ўсёю істотаю адчуў, як нябожчык Юнг перакульнуўся ў дамавіне й пагразіў няшчаснаму Глёбусу кіем.

Але хопіць з Вашым тэкстам. Вернемся ў Эўропу.

Тут даўна ўжо зразумелі, што задача крытыка — не выстаўленьне адзнакаў і не рэалізацыя сваёй агрэсіўнасьці. Рызыкну дыягназаваць, што і ў Вас гэта не асабістае, хутчэй — ад агульнай «саўковасьці».

І ўсё ж мяне не пакідае ўражаньне, што нешта больш глыбокае, чым Вашыя перакананьні, сапраўды хоча агрэсіі, вайны, зацятых змаганьняў... Цёмная падсьвядомасьць літаратуры...

Перагарніце старонку ЛіМа з Вашым артыкулам, Людміла К., і Вы ўбачыце гэтую цёмную падсьвядомасьць! Агрэсію бясформнага.

Пра гэта — у наступным лісьце.



Малюнак Сяргея Харэўскага.

# Маўклівы кляштар князя Сапегі

Алег Дзярновіч

**Што можна сказаць**
**пра помнікі Беларусі? Хіба тое,**
**што ўжо сказаў паўтараста гадоў таму**
**Адам Міцкевіч?..**
**«Помнікі нашы!**
**Колькі ж штогод вас на цёскі**
**Трушчыць сякерай купец**
**ці чыноўнік маскоўскі!..»**
**Што можна да гэтага дадаць?**
**Хіба тое,**
**што замест варожых сякераў**
**сталі актыўна махаць свае,**
**беларускія?**
**І першай ахвяраю**
**стаўся стары, як народ, звычай:**
**не руйнуй тое, чаго не будаваў сам.**
**На зьмену**
**прыйшоў іншы звычай —**
**не шкада, бо ня мы будавалі, ня наша.**
**На зьмену прыйшло невуцтва.**
**Што нам**
**усе гэтыя крэпасьці, ратушы,**
**кляштары,**
**усе гэтыя дамініканы,**
**франьцішканы, базыліяны,**
**усе гэтыя нэфы, барбаканы,**
**кантрафорсы!..**
**Нішчэньне будзе працягвацца й далей.**
**Пакуль адказныя асобы**
**зь сякерамі ў руках не засвояць,**
**чым фасад**
**адрозьніваецца ад апсіды,**
**Мірскі замак — ад Нясьвіскага**
**і хто такія картузы,**
**калі, што й навошта**
**рабілі яны на Беларусі...**



Гэта дзіўнае мейсца. І дзіўныя вашы пачуцьці. Сярод пляскатай раўніны паступова зьяўляюцца муры кляштара — белыя тынкаваныя будынкі й смарагдавыя дахі, пакрытыя зялёнапаліванай дахоўкай, — на фоне блакітнага палескага неба.

Слаўны нашчадак слаўнага канцлера Льва Сапегі — Казімер Леў Сапега ведаў, які кляштар фундаваць, які манаскі ордэн запрашаць. Бяроза сталася адзінай рэзыдэнцыяй манахаў картэзіянскага закону ва ўсёй краіне — Вялікім княстве Літоўскім. Уплыў картузаў на разьвіцьцё мястэчка быў настолькі выдатны, што паселішча атрымала назву Картуз-Бяроза ці Бяроза-Картуская, і захоўвала яе да 1940 году.

Ужо ў 19-м стагодзьдзі тутэйшыя расейскія чыноўнікі складаюць легенду пра тое, што каля мястэчка спыняўся «сябра беларускага народу» А.Сувораў і, адпачываючы, павесіў свой картуз на бярозу. Гэтую легенду й сёньня хто ад няведаньня, а хто й з задавальненьнем перадрукоўваюць з кніжкі ў кніжку. У свой час нават малады Алесь Разанаў паддаўся прапагандзе й агітацыі ды напісаў адпаведны верш:

*— Аднойчы паходам, — легенда гаворыць, —*
*Тут з войскам ішоў палкаводзец Сувораў.*
*Стаміліся крочыць салдаты палямі,*
*Зрабілі прывал на зялёнай паляне.*
*Сувораў суніцы зьбірае па лесе,*
*А пыльны картуз на бярозу павесіў.*
*Ці доўга, ці не на цяністым прывале*
*Салдаты з Суворавым адпачывалі,*
*Затым падаліся далей па дарозе,*
*Застаўся вісець той картуз на бярозе.*
*З тых пор каля ціхае Ясельды-рэчкі*
*Бярозай-Картускай назвалі мястэчка.*

Узмоцнена падтрымліваецца таксама вэрсія пра наведаньне Бярозаўскага кляштара Пятром І (значная падзея ў жыцьці рэгіёна). На гэтую тэму нават намаляваная карціна. Але факт такога прыезду крыніцамі не пацьвярджаецца. Сапраўдная, не міфічная гісторыя іншая.

Першы кляштар гэтага ордэну быў заснаваны ў 1084 годзе сьвятым Брунонам на поўдні Францыі ў мястэчку Ля-Шартроз каля Грэноблю. Пры лацінізацыі *Ш* пераходзіць у *К*, і закон атрымаў назву картэзіянскага.

То быў час інтэлектуальных і арганізацыйных пошукаў каталіцкае царквы, пашыраліся ерасі. У 1207-09 гадох узьнікае ордэн франьцішканаў, а яшчэ праз шэсьць гадоў — дамініканаў. Кожны ордэн выпрацоўваў свой шлях у пошуках Бога, характар кожнага ордэна быў індывідуальны, як і характар чалавека. Дамініканы дбалі пра дагматы й царкоўную дысцыпліну. Таму ў 1232 годзе ім было даручана кіраваць інквізыцыяй. На нашых землях яны зьявіліся даволі рана, і ўжо першым каталіцкім біскупам пры вялікім князі Мяндоўгу быў дамініканскі манах Віт. Тады ж быў збудаваны й кляштар гэтага ордэну ў Любчы (1250г.), а пры вялікім князі Гэдыміне кляштар перавялі ў Навагарадак. Гэдымін заснаваў таксама ў Вільні й Навагрдку кляштары франьцішканаў. Місыянэры-франьцішканы бачылі свой шлях да Бога ў жабрацтве, і таму часта не жылі ў кляштарах, а вандравалі, як Вільгельм Баскервільскі Умбэрта Эко. Паступова франьцішканы ператварыліся ў саслоўе ўнівэрсытэцкіх выкладчыкаў...

На зломе 16 і 17 стагодзьдзяў дзяржава нашых продкаў жыла ў прадчуваньні глыбокага крызісу. Яшчэ былі значныя дасягненьні ў юрыспрудэнцыі (бліскучы Статут) ці ў дойлідзтве (Нясьвіскі касьцёл — другі помнік барока ў Эўропе), але сумлеў ды непаразуменьне ўжо расхіствалі беларускае грамадзтва. Хвалі Рэфармацыі й Контррэфармацыі, страта ініцыятывы ў вайне з Масковіяй, нарастаньне ўплыву Польшчы ў фэдэратыўнай Рэчы Паспалітай, — усё гэта вымагала пошукаў новага духоўнага апірышча. Тыя ж франьцішканы ці дамініканы ўжо сталі звыклымі, сваімі. А князя Казімера прываблівалі картузы, прываблівалі ня так сваім аскетызмам, як заглыбленасьцю ў сябе, у роздум, чаго тады наогул бракавала ў грамадзтве. Карузы давалі самы цяжкі зарок — маўчаньня, насілі адмысловыя галаўныя ўборы, што закрывалі твар ад пільных поглядаў іншых, а самім пакідалі толькі вузкую палоску зроку пад нагамі. Брыль навісаў над вачыма, а вухі зьвісалі з бакоў. Шапкі з брылём і атрымалі назву картузаў.

Першыя пасяленцы былі манахі з кляштару ў Парадыжы пад Гданьскам. А гэта ў той час — зона нямецкае прысутнасьці. Імёны бярозаўскіх картузаў у 17 ст. такія: Каспар Кахэліюс, Юліян Сэндэрман, Антоні Родэр. Прынамсі, пальшчызны яны на Палесьсе не прыносілі. А моваю іхняга жыцьця была лаціна. Падпарадкоўвалася бярозаўская Картэзія спачатку Рэйнскай, а потым Паўночна-Нямецкай правінцыі ордэна. У 18-19 ст. прэорамі былі грамадзяне Вялікага княства (ці былыя грамадзяне) — Бруна Гарэцкі й Павал Генііош, на іншых пасадах — Банавэнтур Шашкевіч і Казімер Дабравольскі.

Будаўніцтва Бярозаўскага кляштару распачалося ў 1648 годзе. І мала таго, што быў абраны год пачатку казацкіх хваляваньняў, дык за час будаўніцтва кляштар спазнаў разбурэньні маскоўскімі войскамі (вайна 1654-1667), якія прыводзілі з сабою татараў. Нямецкія візытатары (своеасаблівыя рэвізоры) ў 1655 г. так пісалі пра гэта: «Некалькі разоў ён (кляштар) быў абрабаваны маскавітамі, татарамі дый падобнымі барбарамі, пакінуты сваімі насельнікамі, якія зьбягалі ў іншыя вобласьці, што належалі ордэну...» Таму й скончылі будаўніцтва толькі ў 1689 годзе. Але пабудаваны быў сапраўдны комплекс. Урачыстая баракальная брама вяла ва ўнутраны дворык, дзе вылучаўся палац Сапегаў. Фундатары мусілі час ад часу адпачываць духам, схаваўшыся за кляштарнымі мурамі ад дзяржаўных віленскіх спраў ды папрокаў у сэпаратызьме з боку Варшавы. У бярозаўскім касьцёле й быў пахаваны князь Казімер.

У глухім мураваным карэ насупраць палаца хавалася зусім іншае жыцьцё. Тут жылі манахі-самотнікі. Рупліва апрацоўваючы грады ў сваім замкнёным дворыку й жывучы з гэтых градаў, самотнікі ведалі толькі адну разнастайнасьць — малітву ў касьцёле, на якую яны ў сваіх белых адзеньнях трапялі па закрытых галерэях. І ў самім касьцёле бакавыя нэфы былі замураваныя — хавалі ад погляду міранаў людзей, якія самі пайшлі на абмежаваньні й замкнёнасьць. Нават адтуліны ў сьценах для перадачы ежы былі зробленыя з двума паваротамі, каб не было бачна таго, хто падае ежу. Парадак гэты быў настолькі жорсткі, што некаторыя картузы ў 18 ст. пераходзілі ў крыху вальнейшы закон франьцішканаў.

Касьцёл быў дамінантай кляштарнага комплексу. У ягонай архітэктуры адбіўся сінтэз мясцовых беларускіх традыцый і прыёмы валоскіх (італійскіх) майстроў — проціпастаўленьне мяккага ў вабрысах галоўнага фасаду й манумэнтальнага ў будове вежы-званіцы, якая нетрадыцыйна для Беларусі далучалася да галоўнае апсіды. Затое гэта было зусім традыцыйна для Равэны — сталіцы барбараў, якія ў пятым стагодзьдзі зруйнавалі Рым. І гэтая вежа ў Бярозе была ўзброеная гарматамі. А спатрэбіліся яны і ў пачатку 18 ст. — у часе чарговых прэтэнзіяў Швэцыі да Рэчы Паспалітай. Дзеля абаронных мэтаў было вымуравана яшчэ некалькі вежаў.

Аднак вайсковыя падзеі — не галоўная прыкмета гісторыі кляштара. Уражвае гаспадарчая дзейнасьць — бровары, майстэрні па вырабу дахоўкі... і гадаваньне чарапах. Стварыўшы своеасаблівую ферму, картузы здолелі акліматызаваць гэтых жывёлаў на палескай зямлі. Кавалак панцыра такой чарапахі (прычым, не мясцовай жоўлы) быў знойдзены ў слаях 18 ст. пад час археалягічных раскопак. Нешта экзатычнае чуваць і ў прадпісаньнях для ніжэйшых манахаў, якія правініліся: апрацоўка вінаградніка, праца ў разарыюме...

Пералом у гісторыі кляштара адбыўся ў 19 ст. У 1819 г. малады манах скардзіўся: «Есьць вялікі намер нас скасаваць, сынод хоча захапіць нашую маёмасьць сабе, войска нацэлілася на кляштар... Мы толькі адзіныя на літоўскай правінцыі нашага закону, ня маем генэрала, ня маем апекуна». Гэты манах яшчэ ня ведаў, што ягоныя словы наконт вайскоўцаў будуць прарочымі.

У 1831 г. манахі пад кіраўніцтвам свайго прэора ўзялі ўдзел у паўстаньні, хавалі інсургентаў. Клерык кляштару Франьцішак Камінскі быў паранены ў нагу ў баі пад Невелем. Падпалі пад суд і былы прэор Павал Геніюш, і Казімер Дабравольскі. Кляштар быў зачынены (такі ж лёс напаткаў і братоў бэрнардзінаў, дамініканаў, франьцішканаў ды іншых). Адна з прычын закрыцьця, выказаная расейскімі ўладамі, — значная фінансавая дапамога картузаў Тадэвушу Касьцюшку ў 1794 г.

10 ліпеня 1831 г. зьяўляецца загад пра перадачу маёмасьці кляштара корпусу кадэтаў у Полацку. У гэтым жа загадзе — словы, якія перадаюць трафарэт мысьленьня расейскага чынавенства ўсіх часоў: «с сего времени приказано называть... Березой Казенной». Кляшторны касьцёл ператвараецца ў парафіяльны. А пасьля паразы паўстаньня 1863-64 гг., калі імпэрскі прэс узмацніўся, а русіфікацыя стала праводзіцца больш выразна, да будынкаў кляштара падыйшлі больш радыкальна. У 1866 г. у Картуз-Бярозу на сталае кватараваньне прыбыў 151 Пяцігорскі пяхотны полк, тэрмінова сфармаваны з рэзэрвавых батальёнаў Тыфліскага гранадзёрскага й Самурскага пяхотнага палкоў. Ім, гаротнікам, не было дзе начаваць, і даецца каманда разабраць на будматэрыялы касьцёл і частку кляштарных пабудоў. Цэгла 17 ст. — сапраўды выдатнае якасьці. Яе скарысталі пры будаўніцтве казармаў, якія атрымалі назву Чырвоных — з-за нетынкаваных цагляных сьцен. Лёс казармаў сымбалічны. Спачатку тут месьціліся расейскія вайскоўцы. У 1930-х гадох польскія ўлады арганізавалі тут канцлягер, на зьмену якому ў 1939-41 прыйшоў канцлягер савецкі, потым — нацыскі. Сёньня там ізноў казармы, савецкія. І ўсё гэтак жа й называюцца паміж бярозаўцамі — Чырвоныя казармы.

Дарэчы, пасьля царскага ўказу 1905 году пра рэлігійную талерантнасьць, у вадной з ацалелых прыбудоў бярозаўскага комплексу зьявілася капліца. І яшчэ ў 20-х гадох гэтай капліцай і руінамі апекаваўся сівы паўстанец 1863 г. Валеры Куль, які апавядаў наведнікам пра былы кляштар. Лёс больш так і ня стаў да кляштара літасьцівым. Літаральна перад прыездам археолягаў улетку 1989 г. з палаца былі выведзены сьвіньні Міністэрства абароны СССР. Там сапраўды знаходзіўся сьвінарнік. Зараз жывёлаў перабазавалі бліжэй да рэшткаў касьцёла. У сутарэньнях касьцёлу, дзе захоўваліся рэшткі законьнікаў, 15 трунаў роду Сапегаў і 42 труны іншых сьвецкіх асобаў, цяпер гніе бульба, а кляшторны двор ператвораны ў звалку мэталялому.

Тое, што некалі было ўнесена ў Францускую энцыкляпэдыю мастацтваў, сёньня выклікае пачуцьцё жалю. Бог бачыць, ня толькі нашая ў гэтым віна.

**P.S.** Аўтар выказвае шчырую падзяку за магчымасьць карыстацца некаторымі гістарычнымі зьвесткамі сп. Валяньціну Калніну.

# Зь Беларусі й Літвы

## З «братняю Русьсю»

Масква прызнала Летуву. Масква — як РСФСР і як СССР. Менск Летуву пакуль не прызнаў. Між тым газэты паведамілі, што прадстаўнікі БССР, «улічваючы іх асаблівую зацікаўленасьць», уключаныя ў дэлегацыю СССР для перамоваў зь Летувіскай Рэспублікай. Як гэта разумець? Прадстаўнікі БССР у савецкай (па сутнасьці — расейскай) дэлегацыі прыраўняныя да прадстаўнікоў Калінінградзкае вобласьці, што таксама мяжуе зь Летувой, і прадстаўнікі якой таксама «ўключаныя», бо таксама «зацікаўленыя».

Характэрна, што пры пераліках ядзернага патэнцыялу СССР два дзесяткі ядзерных базаў на тэрыторыі Беларускае Рэспублікі ня згадваюцца ані Гарбачовым, ані Ельцыным. Ёсьць на Ўкраіне, ёсьць у Казахстане, ёсьць у РСФСР, — у трох рэспубліках. Беларусь тут таксама прыраўняная да абласьцей Расеі. Незалежнае Беларусі быццам не існуе.

Зрэшты й сама Беларусь у васобе сваіх кіраўнікоў усё яшчэ мроіць пра падпісаньне кабальных дамоваў з Расеяй, каб яшчэ раз засьведчыць «извечное стремление белорусского народа»... Апошнія падзеі ў Менску — прыняцьце незалежнасьці, новае назвы, сьцяга й герба,— больш нагадваюць ланцуговую рэакцыю, чым самастойную заваёву дэмакратычных сілаў. А што тыя сілы? Структура ўлады засталася старая, калянійная; ранейшая галоўная палітычная сіла Рэспублікі — кампартыя — распадаецца, а новая сіла — свая, незалежніцкая — яшчэ быццам не нарасла. Але калі свае сілы зараз ня возьмуць уладу, яе возьмуць чужыя. Масква толькі акрыяе — і возьме ініцыятыву на Беларусі ў свае рукі. Бо, як там у іх у Маскве кажуць, «свято место пусто не бывает». С.

## Трохмоўны тэатар

Налета ў Лідзе, магчыма, адчыніцца першы тэатар. П'есы будуць ставіцца на беларускай, расейскай і польскай мовах. Мяйсцовы польскі аддзел мяркуе паслаць у Польшчу на вучобу будучых актораў. Але ж пакуль яны вернуцца, давядзецца доўга чакаць. Можа лепей актораў запрасіць, як ужо было зроблена з ксяндзамі?..

## Мільён на Магілёўскую архікатэдру

ахвяравала рэдакцыя парыскай *Kultury*. У верасьнёўскім нумары гэтага часопіса зьмешчаны заклік пробашча архікатэдры кс. Славаміра Ул. Бліна — дапамагчы адрамантаваць храм. Сёньня, піша кс. Блін, ксяндзы ўжо працуюць у Лельчыцах, Мазыры, Гомелі, Полацку, Вітэбску, Лепелі. Найбліжэйшыя ад Магілеву парафіі — Ворша, Бабруйск, Барысаў. Літургія вядзецца пераважна на трох мовах: польскай, беларускай і расейскай. Гэтак каталіцкі касьцёл вяртаецца на абшар усходняе Беларусі. Але бракуе сродкаў на аднаўленьне храмаў. Мільён злотых на такую справу — зусім няшмат, але галоўнае, лічыць *Kultura*, заахвоціць іншых ахвярадаўцаў, паказаць прыклад.

## Галівуд па-над Нёмнам

Старыя гарадзенскія падворкі ды вулкі штогод па колькі разоў робяцца кіназдымачнымі пляцоўкамі. Сёлета ўлетку маскоўцы ператварылі на час ужо зьнявечаную Саветамі камяніцу Тызенгаўзавага тэатру ў публічны дом (к/стужка «Брунэтка за 30 капеек»). Толькі скончылі, як у тэатры ж сабралі вэтэранаў з мэдальнымі плянкамі на грудзёх, каб сфільмаваць сцэны вітаньня колішніх куміраў — Чапая, Сталіна, Хрушчова ды Брэжнева. (Масоўка атрымалася знакамітая й настальгічная.) Кінагурт М.Пташука займаўся гэтым з паловы ліпеня да паловы верасьня. Роля Сталіна дасталася вядомаму А.Пятрэнку. Астатніх куміраў згулялі таксама расейцы. Зь беларусаў быў запрошаны адно купалавец Гарбук, дый ролю атрымаў сьціплейшую. Што ж, чые куміры, тым і гуляць іх. Беларусы па-ранейшаму застаюцца збольшага статыстамі. Як і ў жыцьці.

С.А.

Фота У.Выдэркі.



# Гы!

Андрэй Шчука

**Горача. Горача ўдзень і душна ўначы. Мы сьпім на сене, пад самай страхою пунькі.**

На самым золку, ледзь толькі пачынае шарэць неба, сусед заводзіць сваю бэнзапілу ды расьпілоўвае на часткі наш сон. Апроч нашага сну, ён не расьпілоўвае нічога, і ўвогуле, на гэтай бэнзапіле ён — езьдзіць, бо да яе прычэпленыя два колы й скрынка, і ўсё гэта гучна завецца «мінітрактарам».

Нарэшце сусед, а пасьля й трэск ягонага агрэгату хаваюцца за далягляам. Можна зноў заснуць, але ненадоўга — нас будзіць навязаны ля пунькі вялікі калматы сабака Пазурык. Яму крыўдна — ён бачыць, як з пяціпавярховага дому насупраць вывялі на ранішні мацыён такога ж вялізнага, але вымытага й дагледжанага сабаку.

Дзядзька, якому належаць пунька й сена, вельмі працавіты. Праца паступова выціснула зь ягонага жыцьця ўсё астатняе. Ён нават больш працуе, чым сам Гасподзь, бо той усё ж адпачываў хоць на сёмы дзень. Наш дзядзька ўсе сем дзён у нязьменнай рабочай вопратцы завіхаецца ля хлеўчука, дзе знаходзіцца ўсялякая жывёла.

Жывёлу час ад часу здаюць на базу, пасьля чаго яе зьядаюць людзі, у жыцьці якіх праца займае найменшае мейсца.

Ля дзядзькавай хаты растуць ігрушы й яблыкі. Пад адным дрэвам ляжыць запэцканая ў гной кніга Серафімовіча «Жалезны паток». На кнізе сьпіць чорны кот Мумрык. Кніга належыць невядома каму, а кот належыць сам сабе, хоць і сталуецца ў дзядзькі зь цёткай.

З хаты чуваць пранрэзьлівы крык — гэта прачнуўся маленькі хлопчык Лялік, прывезены да бабулі на той час, пакуль ягоная маці бавіцца ў далёкай Польшчы. А некалі тут было так, што каб патрапіць у Польшчу, ня трэ было нават выходзіць з хаты, бо мяжа была не на захадзе, а на ўсходзе. Цяпер жа па квіток да Варшавы трэба стаяць у чарзе дзень, ноч, раніцу й яшчэ трошкі. А пасадку на дызель да Саколкі можна параўнаць толькі з такой жа пасадкай, што была ўчора, і ні з чым болей.

Нарэшце Лялік пасаджаны на гаршчок, пасьля памыты й накормлены. Памыты, праўда, ненадоўга.

Ляліку год з хвосьцікам, і сумоўе пры дапамозе словаў не ўваходзіць яшчэ ў ягоныя абавязкі. Зрэшты, ён вынайшаў свае замяняльнікі для словаў — нашмат больш ёмістыя, чым самі словы. Напрыклад, усё, што мае поўсьць і кіпцюры, называецца кы-ця. Тое, што мае пер'е й крылы — ко-ко. А ўсё страшнае, гідкое й незразумелае завецца — гы!

Лялік толькі навучыўся хадзіць. І гэта яму вельмі падабаецца. Варта толькі бабулі спусьціць яго з вока, як ён тут жа зьнікае — і знаходзіць яго бабуля дзесь далёка-далёка, у баразьне пасярод бульбоўніку. І то толькі таму, што, паказваючы мурзатым пальчыкам у неба, Лялік крычыць — «Гы-ы-ы!» А ў небе ляціць плямісты верталёт з чырвонаю зоркай.

Зь сенам усе справы скончаныя, і мы можам ісьці праз мястэчка да возера.

**Па дарозе заходзім ва ўнівэрмаг. Ён нагадвае Сахару — таксама горача й таксама пуста.**

**Непадалёк ад унівэрмагу — вінная крама. Ля крамы, пагойдваючыся, стаяць разнастайныя гы. Іх атачае нябачная, але дужа адчувальная сфэра перагарнага смуроду.**

**Бліжэй да возера бачым яшчэ аднаго гы. Ён ляжыць у чароце.**

**Усе гы, нягледзячы на сьпёку, чамусь апранутыя ў чорныя гарнітуры.**

**А яшчэ адзін гы дык увогуле мае на сабе паліто й кепку. Ён цьвёрда і ўпэўнена стаіць на гранітным пастамэньце і ўзіраецца з тугою ў возера. Мабыць, уначы, калі ніхто ня бачыць, ён скідае сваю бронзавую кепку й бронзавае паліто ды імчыцца да возера. Месяцовыя блікі ільсьняцца на ягонай лысіне, а бронзавыя трусы грымяць на ветры...**

**Аднак цяпер дзень, і ў возеры купаемся мы. Людзей шмат. Распранутыя сямейныя пары часта нагадваюць лічбу 10. Але купацца хочацца ўсім, і ніхто не саромеецца недахопаў свае паставы. Нейкі дзяцюк плавае, трымаючы над сабой, як штандар, руку ў гіпсе.**

**Пляж добра абсталяваны. Ёсьць і кабінкі для пераапрананьня, і будкі розныя, і грыбочкі. Няма толькі пэўнай установы, якую часам надта ж карціць наведаць.**

**Калісь Хаджа Насрадзін вырашыў адвучыць свайго асла ад ежы: дзень ня даў — жыве, другі ня даў — жыве...**

**Ад ежы нас адвучваюць даўно, і ўжо амаль адвучылі — ад добрай, прынамсі. Аднак, ёсьць рэчы, у якіх мы ўсё яшчэ не паддаемся. Таму і кабінкі, і грыбочкі, і будкі забру... карацей кажучы, засраныя.**

**— А як асёл?**

**— Які асёл? А-а, той. Здох.**

**Ад сьпёкі думкі ў галаве варушацца марудна. Мабыць, пад бронзавай кепкай таксама. І добра — а то чарговыя ідэі авалодаюць масамі, і ў выніку гэтага згвалтаваньня народзяцца ідыёты, якія пракладуць рэйкі для чарговых лакаматываў гісторыі.**

**Хто напіша трактат на тэму «Ідыятызм як накіроўваючая сіла гісторыі»?**

**Урэшце вяртаемся дадому.**

**Улучаем тэлевізар. Па першай праграме камуністы братаюцца з папамі. Па другой — наадварот, папы братаюцца з камуністамі.**

**Мабыць, нарэшце, назавуць Расейскую кампартыю РКП(п) — «праваслаўных».**

**На сьцяне вісіць люстра. Але падыходзіць да яго я баюся — а раптам адтуль на мяне зірне гы?..**

Мядзел, ліпень 1991.

# Летувіская кроніка

*

В.Ландсбергіс падпісаў ухвалу «Аб антысэміцкай прапагандзе ў некаторых выданьнях СССР, якія распаўсюджваюцца ў Летуве». Ці адпавядае законам Рэспублікі дзейнасьць дзяржаўнай службы, якая распаўсюджвае савецкія выданьні «Молодая гвардия» ды іншыя, што прапагандуюць расавую варожасьць і антысэмітызм? — так ставіцца пытаньне.

*

Многія савецкія вайскоўцы, вываду якіх зь Летувы патрабуюць улады Рэспублікі, кажуць, што ім няма куды ехаць, і просяць пакінуць іх на службе ў сістэме летувіскай аховы краю.

*

Паліцыя Пасвальскага раёну арыштавала нейкага Ігнатаса Монтвідаса. У 1982 ён забіў сваю жонку і быў схоплены ў момант, калі гатаваў жончыныя грудзі да ежы. Прайшло 9 гадоў, злачынца выйшаў з турмы і забіў сваю суседку. Гэтым разам яго затрымалі, калі ён на гарышчы саліў чалавечае мяса. Экспэртыза лічыць Монтвідаса сьвядомым. А сам людажэр ходзіць да касьцёлу, яму 51 год, у яго чацьвёра дзяцей. На пытаньне, чаму ён усё гэта робіць, адказаў: мяне быццам чорт падштурхнуў...

# Я сьмяюся

Алесь А.

**Аднаўленьне Лідзкага замку набліжаецца да завяршэньня. І калі я гляджу на ягоныя муры, мне робіцца спакойна. Я адчуваю рэстаўрацыю народнага духу — і вакол, і ў сабе.**

**Аўтобус 5. На вуліцы Калініна заходзіць старая з кіем. Ёй саступаюць мейсца. Але яна зусім яшчэ ня кволая, заводзіць дэманстратыўна гучна на каравай пальшчызьне: «Я ўнуку кажу, будзеш добжым каталікам — дам пенёндзаў дзьвесьці пеньдзесят рублёў на відзік».**

**Я сьмяюся.**

**Напэўна, так я разважаў напачатку васьмідзесятых. Прыкладна. А зараз я сьмяюся. Бо за бабкай адзін ксёндз стаіць і — больш нічога. А за мною ўсё, пачынаючы ад Замка. Вось ён якраз за вокнамі аўтобуса.**

**Ды й унук твой, бабка, ня стане добжым каталікам, бо што зараз тыя дзьвесьці пеньдзесят рублёў...**

**Я сьмяюся.**

**Муж маёй аднаклясьніцы — добжы каталік. Бацькам дапамагае, у касьцёл ходзіць. Катэхізм мае. Гэткі, для паўразумных, — у польскай мове, але расейскімі літарамі. Камічная штучка. А ён чытае з сур'ёзным тварам.**

**А я сьмяюся.**

**Прыехала да яго маці зь вёскі Дзітва, што пад Лідай. Вось ён ёй гэтак з усьмешкай і кажа: «Алесь у нас беларус. Бачыш, я нават зь ім па-беларуску размаўляць пачаў». Маці загаварыла, а я й заслухаўся. Чыстая мова, жывая. Ніводнага расейскага слова. І польскага таксама.**

**А Воўка Абрамчык, мой аднаклясьнік, на аўтабазу працаваць пайшоў. Далі яму «Камаз», а на капоце надпіс — «Белоруссия». Узяў ён ацэтон, анучу, пэндзаль і фарбу... Езьдзіць цяпер па Лідзе самазвал, у якога сьпераду замест «Белоруссия» — «Жыве Беларусь!» І кожны дзень Валодзю з тратуараў маладыя хлопцы падбадзёрваюць.**

**Вось таму я й сьмяюся.**

**Бо ў ксяндза тога — пальшчызна, а за намі — Лідзкі Замак.**

Ліда.

# Што здарылася?

Анталёгія НН

**Гайна, Барысаўскага павету.** На Юр'я, у вечар, у нашу царкву залез злодзей, забраў там 38 з палавінаю рублёў і шукаў болей. Гэтым часам ішлі зь вечарніцаў хлопцы і, угледзеўшы ў царкве агонь, паклікалі папа і вартаўніка, каторы быў моцна напіўшыся. Злодзей стаў спускацца на вяроўцы з званіцы. Поп закрычаў, каб у яго стралялі; злодзей, спалохаўшыся, зваліўся. Тагды сталі яго біць і зусім скалечылі, перабіўшы сьпіну й вывярнуўшы нагу.

Я.Гаравік. *№17, 1907.*

* * *

**Сергіеў Пасад, Маскоўскай губэрні.** Газэта "Утро" піша аб адным здарэньні з жыцьця манахаў. 2 сакавіка, перад вялікім пастом, калі манахі павінны весьці вельмі сьвятое жыцьцё, рабочы Ш-ў паслаў сваю недарослую дзяўчынку па хлеб. Па дарозе ёй сустрэўся манах, каторы давёў яе да хлебапякарні і там яе згвалтаваў. Цяпер вядзецца над манахам суд.

*№17, 1907.*

## Няма праблемы палякаў, ёсьць праблема бальшавікоў

Пра сітуацыю ў Віленскім краі распавядае Сьцяпан Дуж-Душэўскі



Здымак А.Г.

**— Я не гаварыў па-беларуску 50 гадоў. Разумееце? А цяпер, што б пра мяне ні казалі, я працягваю справу свайго бацькі...**

*Бацька Сьцяпана Дуж-Душэўскага — Клаўдзі Дуж-Душэўскі — беларускі грамадзкі дзеяч і інжынэр — жыў разам зь сям'ёй у міжваенным часе ў Коўне. У Ковенскай Летуве вырас ягоны сын — таксама інжынэр, кандыдат тэхнічных навук і апошнімі гадамі таксама палітык, сябра дзяржаўнай Камісіі па справах Усходняе Летувы (Віленшчыны), старшыня Летувіскае Рады Беларускага Народнага Фронту. Гэтая Рада БНФ узьнікла й афармілася пад час нядаўніх жнівеньскіх падзеяў, калі беларусы Летувы мусілі выказаць сваю выразную палітычную пазыцыю. І яны яе выказалі: трое сутак на пляцы перад парлямэнтам быў беларускі сьцяг, а радыё й газэты данасілі заклікі Рады БНФ да насельніцтва — не падтрымліваць ніякія антыканстытуцыйныя сілы й дзеяньні.*

*Сёньня С.Дуж-Душэўскі ад раньня да вечару працуе ў Салечніках, дзе дапамагае ўпаўнаважанаму ўраду ЛР у Салечніцкім раёне (на самай мяжы зь Беларускай Рэспублікай), дзе цяпер складаная сітуацыя, дзе большасьць жыхароў называе сябе палякамі, а гаворыць па-беларуску, дзе да самага жніўня трымаліся пры ўладзе камуністы... Што тут адбылося?*

**— Што адбылося? Пасьля аднаўленьня незалежнасьці Летувы (11 сакавіка 1990 году) структуры КПСС пачалі разыгрываць польскую карту. Па часе гэта непасрэдна супала з прыездам у гэтыя раёны сакаратара ЦК КПСС Шэніна. У Салечніцкім і Віленскім раёнах камуністы прыйшлі да ўлады ў Саветах, адмянілі летувіскія законы, абвясьцілі на тэрыторыі раёнаў вяршэнства Канстытуцыі СССР. Гэта ўжо былі антыканстытуцыйныя дзеяньні.**

*— А чаму яны ўсё ж прыйшлі да ўлады? Іх падтрымалі людзі?*

**— Бачыце, у гэтых раёнах бальшавікі стварылі даволі жорсткія фэўдальныя структуры. Кіраўнікі гаспадарак — члены КПСС — былі ў поўным падпарадкаваньні райкамаў партыі. І таму старшынёй, напрыклад, Салечніцкага райсавету стаў Ч.Высоцкі, другі сакратар Салечніцкага райкаму КПСС. Тое, што такія кіраўнікі-бальшавікі цяпер паўцякалі, сьведчыць само за сябе: яны разумеюць, што яны злачынцы. Іх улада трымалася на запалохваньні людзей, аж да рукапрыкладзтва, і яшчэ на ідэі так званай польскай аўтаноміі для Віленскага краю. Нарэшце, тутэйшыя саветы адразу й цалкам падтрымалі маскоўскіх пучыстаў. І вось Найвышэйшая Рада Летувы пастанавіла распусьціць райсаветы за іх антыканстытуцыйную дзейнасьць і прызначыць сюды ўпаўнаважаных ураду.**

*— Гэта выклікала пратэсты мяйсцовых дэпутатаў-палякаў. У друку яны цьвердзяць, што гэтыя райсаветы былі найвялікшым дасягненьнем тутэйшых палякаў. Словам, палякі пакрыўджаныя за роспуск камуністычных саветаў...*

**— На жаль, яны блытаюць два пытаньні — польскае й бальшавіцкае. Ня толькі дэпутаты, а нават ня ўсе ксяндзы зразумелі, што гэта КПСС разыгрывае польскую карту. На самай справе польскае пытаньне тут ні пры чым. Ёсьць пытаньне бальшавікоў, пытаньня палякаў няма.**

*— Згадаем, што роспускам саветаў незадаволеная й сама Польшча...*

**— Пасьля развалу КПСС у Маскве тутэйшыя бальшавікі пераарыентаваліся на Польшчу. Але і ў Польшчы іх падтрымліваюць галоўным чынам**



### У старой Вільні

*Вакно рашчынена.*
*Гайдаецца фіранка.*
*Гладзь падваконьня*
*мройна льсьніцца глянцам.*
*Сп'янелыя ад сонечнага ранку*
*Буркуюць галубы на дворыку цагляным.*

*Даўней тут гнезьдзіўся*
*ствральны Дух Дзяржавы,*
*А зараз — спрэс музэі ды магільні...*
*Пара ўставаць, духмянай выпіць кавы*
*І патануць*
*у гулкасонных нетрах Вільні.*

А.М.



## Касьцёл сьвятога Мікалая

Лявон Луцкевіч

У першым нумары аднолленае *НН* была нататка пра віленскую Пятніцкую царкву, якую лічаць першай у горадзе праваслаўнай сьвятыняй. А сёньня гутарка пойдзе пра касьцёл сьв. Мікалая, які лічаць ці не найстарэйшым віленскім каталіцкім касьцёлам.

Як сьцьвярджае Адам Кіркор, самыя даўнія касьцёлы Вільні — касьцёл Франьцішканаў на Троцкай вуліцы ды касьцёл сьв. Мікалая ў Мікалаеўскім завулку. Вялікі касьцёл Франьцішканаў — бадай, найстарэйшы мураваны касьцёл у Вільні, збудаваны каля 1430 году. Але, на думку Кіркора, Мікалаеўскі касьцёл яшчэ больш стары, бо на мейсцы цяперашняга мураванага яшчэ ў XIV ст. быў збудаваны драўляны, які таксама меў назву сьвятога Мікалая і таксама быў зьвязаны з ордэнам манахаў Франьцішканаў, які трапіў у Літву яшчэ за часоў Гэдыміна. Кіркор кажа, што Гэдымін паклікаў у Вільню немцаў з ганзэйскіх гарадоў, даў ім прывілеі й свабоду веравызнаньня, чым і тлумачыцца пабудова першага каталіцкага касьцёла яшчэ да афіцыйнага хрышчэньня Літвы каралём Ягайлам. У той час усё гэта спрыяла разьвіццю гандлю й рамёстваў.

Сучасны мураваны касьцёл сьв. Мікалая збудаваны не пазьней 1440 году ў стылю готыкі. У амаль нязьменным выглядзе ён захаваўся да нашых дзён. Яшчэ два віленскія касьцёлы ў стылю позьняе готыкі — сьв. Ганны й Бэрнардынаў — адносяцца ўжо да пачатку XVI ст. Амаль усе астатнія гатыцкія касьцёлы, што ацалелі ў войнах і пажарах, былі перароблены ў стылю барока. Дзеля таго, кажучы пра готыку Вільні, часта даводзіцца ўяўляць яе пад пазьнейшымі напластаваньнямі.

Маленькі касьцёл сьв. Мікалая захаваўся, і пазьнейшыя зьмены нязначныя. Гэта, напрыклад, даволі вялікія вокны, прарэзаныя ў другой палове XVIII ст., збудаваная ў пачатку XIX ст. ня дужа цікавая званіца.

Прымітыўная архітэктура касьцёла, вядома, ня сьведчыць пра высокае мастацтва. Ня знойдзем мы яго і ў інтэр'еры — сваімі цяжкімі прыплюснутымі прапорцыямі ён нагадвае падземную пячору. Гэткае ўражаньне крыху зьмякчаюць дэкаратыўныя матывы — «зоркавыя» скляпеньні, характэрныя для позьняе готыкі. Яны й зьявіліся тут на сто гадоў пазьней самога касьцёла. Уражаньне цяжкасьці падкрэсьлівае арган, які быў пастаўлены тут у XVIII ст. — масыўны, з характэрнымі барочнымі формамі.

Заціснуты паміж цеснымі вулкамі старое Вільні, касьцёл сьв. Мікалая мае яшчэ й асаблівую традыцыю ў рэлігійным жыцьці віленскіх беларусаў. Яшчэ да першай сусьветнай вайны гэты касьцёл быў перададзены летувісам, багаслужбы й казаньні гучалі на летувіскай мове. А ў міжваенным часе поруч зь летувісамі тут знайшлі прытулак і вернікі-беларусы, якія хацелі гутарыць з Богам на роднай мове. Доўгі час тут вялі багаслужбы па-беларуску ксёндз Адам Станкевіч ды іншыя беларускія сьвятары. Тут бралі шлюб Лявон Дубейкаўскі й Юльляна Мэнке, Браніслаў Тарашкевіч і Вера Сьнітка, Зоська Верас і Антон Войцік... Сюды хадзілі маліцца вучні беларускай гімназіі, студэнты ўнівэрсытэту, старэйшыя людзі. Пасьля вайны ўсё гэта было спынена, як было спынена ўсё беларускае жыцьцё ў Вільні. І толькі пазалетась падчас установчага зьезду Беларускага народнага фронту, які адбыўся ў Вільні, у касьцёле сьв. Мікалая зноў чуваць было беларускую мову — імшу па-беларуску адслужыў летувіскі ксёндз айцец Вацлаў Алюліс.

*Здымкі з архіву аўтара.*

# Дзядзя Федзя зьеў мядзьведзя

*Дастаеўскі і Беларусь*

С.Д.

**Гэты тэкст, які мы зьмяшчаем сёньня ў замежнай частцы рубрыкі "Словы" — не зьяўляецца ўласна тэкстам пра Ф.Дастаеўскага, які можна было б разглядаць, як адну з угодкавых публікацый да 170-годзьдзя пісьменьніка, але гэты тэкст — якраз пра такія публікацыі, пра папулярную тэму юбілейных артыкулаў: "Творца і Беларусь".**

Апавядаюць, што калі Дастаеўскі прынес свой першы раман «Бедныя людзі» Някрасаву, той прачытаў і сказаў:

— Добры раман. Толькі пішаш ты як нярускі.

— Чаму «як»? — вырвалася ў Дастаеўскага.

* * *

На тэму «Дастаеўскі і Беларусь» што-небудзь вартае можна напісаць толькі ў жанры Эжэна Енэско. Я шукаў свой лягічны шраг для гэтае тэмы й спыніўся на нечым накшталт: Дастаеўскі і Пакістан ці Пуанкарэ і Беларусь ці Рыгор Барадулін і Буркіна Фасо...

Нарадзіць такую тэму, як тэму для навуковага вывучэньня, можа толькі абсурдызаваная сьвядомасьць. Дасьледчыку, які ўзброены гэткай сьвядомасьцю, здаецца, што ён робіць патрыятычную справу: узвышае ці, дакладней, навязвае човен свае Бацькаўшчыны да нагі калоса...

А вы ведаеце, што жонка Бальзака з-пад Віцебска? Што бацька Норвіда з-пад Менску? Што «Ленін думае пра Беларусь»? Ах, вы ня ведаеце!..

Ва ўсіх падобных цікавостках (а гэта не заўсёды толькі цікавосткі для апошняе калёнкі суботняе газэты) наша Беларусь прысутнічае як аб'ект, суб'ектыўна сябе ніяк не выяўляючы.

Тут — паміж станамі суб'екту й аб'екту — існуе пэўная кандыцыя самадастатковасьці, калі ў тэме «Беларусь і Творца» мы бачым Творцу з пэўнага боку (профіль ці анфас), але ўсяго, цалкам. Гэтак, прыкладам, у тэме «Беларусь і Адам Міцкевіч». Тут наша Бацькаўшчына адлюстроўваецца ў жыцьці й даробку Творцы цэльна, гэтаксама як і ён увесь адлюстроўваецца ў Беларусі. А калі кандыцыі няма, калі ёсьць толькі генэалягічная галінка, імёны двух-трох герояў, сугучныя зь імёнамі беларускае гісторыі ды два-тры выказваньні творцы пра беларускі народ і ўласнае паходжаньне зь літоўскае дрыгвы... дык тут у люстэрку Беларусі мы бачым не ўсяго Творцу й нават зусім ня Творцу, а толькі нос ды ґузік ад сурдута. Ну, проста коньнік без галавы, нябачны герой Уэлса ці ня больш бачны дзядзя Федзя, які загадкавым чынам зьеў цэлага мядзьведзя. Уявіце сабе тэму: «Дзядзя Федзя зьеў мядзьведзя і Беларусь»...

Зрэшты, пра што не напішаш трактат, калі ахопіць цябе такое патрыятычнае пачуцьцё нацыянальнае беднасьці!

Адзін маскоўскі літаратар расьпісаў увесь радавод Дастаеўскіх. Пыхцеў, пацеў, дзе не вязалася — зьвязваў, дзе распаўзалася — сьцягваў (балазе, у Літоўскай мэтрыцы Дастаеўскіх процьма). Доўга мучыўся. Але нарэшце давёў, што заснавальнік роду тры стагодзьдзі таму прыбыў у Пінск з Масквы. І вось (тут у замілаваные публікі ўжо наварочваецца трыумфальная сьляза) праз тры стагодзьдзі Дастаеўскія вяртаюцца... на радзіму... наш! На-а-аш! З усіх бакоў наш!

Вось жа й беларускаму дасьледчыку карціць выцягнуць такую трыумфальную сьлёзку ў нацыянальна абыякавай публікі. Але... У маскоўскага літаратара той радавод — мазок, штрых у цэльную карціну на тэму «Дастаеўскі й Расея», а ў нас — мазок у паветры...

* * *

Здаецца, я ўжо досыць тлуста закрэсьліў тэму «Дастаеўскі і Беларусь» як тэму навукі, літаратуразнаўства. Але я пакідаю яе, як удзячную тэму свайго жанру — абсурду. Усяму свой жанр.

Што да аналітыкі, дык тут мусіць быць іншая тэма.

* * *

Памятаеце, Някрасаў сказаў Дастаеўскаму:

— Выдатны раман. Толькі пішаш ты як нярускі.

— Чаму «як»? — прашаптаў, ня думаючы, малады Дастаеўскі.

Падумаўшы, ён заўсёды казаў пра сябе: «я — рускі». І гэтым выкрываў сваё іншародзтва. Так ніколі ня скажа Талстой, не сказаў Тургенеў, ня кажа сучасны жыхар Расеі. Талстой, Тургенеў і расеец кажуць: «я — чалавек».

«Я — рускі» Дастаеўскі кажа гэтак, як «я — рускі» кажа беларус. Для беларуса на гэтай фразе змыкаюцца дзьве крайнасьці: нацыянальная індыфэрэнтнасьць і вострая патрэба нацыянальнае ідэнтыфікацыі. Беларус (той, што «рускі») вельмі пільна рэагуе на этнічныя адрознасьці й ніколі не праміне адзначыць, што Гэля выйшла за габрэя, што пряжджалі літоўцы, што палякі — гандляры, і нават што Станкевічы — заходнікі.

Зусім неабыякавы да нацыянальнасьці сваіх герояў і Дастаеўскі. Ён не вобразатворца. Прынамсі, ён менш вобразатворца, чым этнапсыхоляг.

Вось тут мы і можам падступіцца да сякой-такой аналітыкі. Напрыклад, пра замкнёны характар беларуса і Дастаеўскага, калі пры вонкавым спакоі ўсярэдзіне бушуе бура, якая можа вырвацца вонкі нематываваным учынкам. Ці ж ня гэткія зболышага героі Дастаеўскага? І хіба гэтыя героі не найбольш зразумелыя беларусу спаміж зразумелых, але ўсё ж літаратурных герояў Талстога альбо Флабэра?

Расеец і француз, чалавек Захаду й чалавек Усходу доўгія гадзіны могуць прыдумляць матывацыю ўчынкаў Раскольнікава, князя Мышкіна, Стаўрогіна, не разумеючы іх «чыста пачалавечы». Мы ж, беларусы, разумеючы, можам абыйсьціся й без матывацыяў. Скажам, на ўроках расейскае літаратуры ў беларускай школе.

Дастаеўскі пакінуў пэўную глебу для твораў Гесэ, Камю, Сартра... Ягоны чалавек — чалавек не зацыклены, не фанатык, ён толькі пакутуе ад усялякага ірацыяналізму ў грамадзкім жыцьці. Што да Заходняга і Ўсходняга чалавека, дык яны ў ірацыяналізьме знаходзяць і станоўчае: свой нацыянальна-рэлігійны фундамант, празьмерную адкрытасьць ці празьмерную закрытасьць адпаведна ўсходняй і заходняй душы, кожны сваё мэсіянства. Мы ж пасярэдзіне...

Але я, мусіць, пачаў новы артыкул на іншую тэму, як мне здаецца, ужо не абсурдную: БЕЛАРУСКІ ХАРАКТАР І ЭТНАПСЫХАЛЕГІЯ ДАСТАЕЎСКАГА ці проста: ДАСТАЕЎСКІ, альбо й зусім проста: БЕЛАРУСЬ.



*Малюнак Сяргея Харэўскага.*

# Фрыдэбэрт Туглас

абразкі



## *Сьмерць у кветках*

**Сон, калі я быў яшчэ зусім маленькі:**

**Луг быў поўны агніста-чырвоных кветак. Яны даставалі мне да самага твару. Я йшоў, маленькімі ручкамі вызваляючы сабе дарогу праз гэты лес кветак, згінаючы высокія сьцяблíны налева й направа.**

**Раптам перада мною паўстала маладая жанчына ў чорным вэлюме. Яе вочы злавілі мой позірк. Я спыніўся й забыўся адхінуць сьцяблíны налева й направа.**

**О, якія прыгожыя былі ў яе вочы: бліскучыя, звабныя, салодкія! Нібы пяшчотнае полымя разьлілі яны ўва мне, бязмоўны смутак, бясслоўны поклiч. Яна нібы прылашчыла мяне і ўзяла мяне за маю дзіцячую руку.**

**Мне здалося, што я на імгненьне ўзьняўся над зямлёю, і маё сэрца напоўнілася невымоўнай асалодай, шчасьцем збавеньня, адухоўленасьці і згасаньня.**

**Я прачнуўся і ўбачыў у пакоі срэбную сьвецень месяца. І я стаў на калені ды прашаптаў: «Прыйдзі, жанчына з прыгожымі вачыма, прыйдзі, прыйдзі!»**

1903.

## *Чорны карабель*

**«Ох, як паліць сонца! Я ўжо не магу болей чакаць... Пагляндзі, дзіцятка, ці не плыве нарэшце той карабель?»**

**«Не плыве, не плыве! Мора як шкло, мора нібы сьпіць».**

**«Ох, як мы яго чакалі! Чаму ж ён усё не плыве? Вялікі й годны карабель прарока. Ён прыйдзе, каб завезьці нас у Ханаан. Хвалі плёскаюцца вакол яго, аблокі ахінаюць ягоныя мачты, вечаровы вецер надзімае ягоныя ветразі. О, каб мае сьляпыя вочы яшчэ маглі яго пабачыць! Яго белыя ветразі, нос у кіпені, а на носе — самога прарока... У пошуме хваляў**

# КЕНТАЎР

**Леаніда Лары**

*Кентаўр ужо даўно сачыў за мной...*
*Займеў ён звычку з-за муроў*
*падглядваць,*
*як па пяску іду я басанож,*
*і скарпіёнаў кідаць мне пад ногі —*
*не, не са зла, ён не хацеў пакрыўдзіць,*
*ён проста сам ня ведаў, што хацеў.*
*І я не крыўдавала на яго,*
*не адганяла і не парушала*
*ягоную спрадвечную самоту.*
*Я разумела: ён — кентаўр, і жыць*
*ні між людзей, ні безь людзей ня можа.*
*А ціхі дом на ўскрайку цёмнай пушчы*
*з пляскатым камянём замест парога,*
*які стаяў далёка ад паселішч*
*над сіняй сажалкай — яго, кентаўра,*
*нібы магніт, прыцягваў, зразумела.*
*Я вочы ў вочы з конечалавекам*
*не сустракалася ні разу. Толькі неяк*
*убачыла, як ён неасьцярожна*
*у сажалцы пялёскаўся пад поўняй.*
*Адчуўшы позірк мой, ён стрымгалоў,*
*раскідваючы пырскі, зьнік у змроку.*
*Назаўтра я на беразе вільготным*
*знайшла глыбокія сьляды з вадою,*
*разгладзіла іх дрогкаю рукою*
*і жоўтым жвірам іх пазасыпала —*
*і гэта ўсё, што я магла зрабіць...*
*Я ведала, што ён умее думаць,*
*бо ўсё мянялася зь яголым прыйсьцем:*
*само паветра! І трава крычала*
*пра цяжар цела, што яе дратуе.*
*Магчыма, гэтак бы ўсё і прайшло,*
*як прамінае ўсё на гэтым сьвеце,*
*калі б ня прага, палкая, сьляпая,*
*што сьпела й разгаралася ўва мне:*
*убачыць зблізу дзіўны твар ягоны!*
*І вось, вар'яцкай ноччу, не стрывала*
*той прагі я і выйшла з дому ў цемрадзь,*
*каб адшукаць яго сярод травы...*



*Ён спаў на дзірване, аднак пад грывай,*
*пад дзікай, варанай, калматай грывай,*
*дзіцячы твар, як малако, сьвяціўся...*
*Ці вам даводзілася ўпотайку сьмяяцца*
*ад несьвядомай радасьці, ад шчасьця,*
*страсаючы, як жжоўклы ліст з галіны,*
*журботы даўняй рэшту і сумненьняў?*
*Ён быў такі! Ніякая, напэўна,*
*моц іншая ня здолела б зьмякчыць*
*пакуту, што скажала рысы твару*
*удзень, калі ён мэнчыўся з сабою.*
*І я глядзела — ў чым мая віна,*
*што адарваца не магла? — глядзела.*
*І ён, прачнуўшыся, зусім, як мы,*
*па-чалавечы, паглядзеў мне ў вочы,*
*забыўшыся на цела, у такой*
*шалёнай радасьці, што боль і сорам*
*мне скроні сьціснулі, і я ня сьмела*
*ні варухнуцца, ні ўздыхнуць: у страху,*
*што ўспомніць ён усё і — зразумее...*
*Дзесь у імгле цурчэў ручай, і ціха,*
*было так ціха... Толькі цёплы ветрык,*
*ды нашы душы... І яны зьліліся*
*паглядамі і велічна зазьзялі,*
*і паімчалі разам цераз цемру,*
*як два сьвяцілы ў неўтаймоўным віхры.*
*... Ды дзень прыйшоў! І сонца,*
*быццам Юда,*
*пацалавала промнем лоб кентаўру —*
*і ўбачыў ён сябе! У дзікім спудзе,*
*ня верачы яшчэ, што капыты,*
*і цяжкі крыж, і поўсьць яму належаць,*
*ускочыў і мо ўпершыню ўсьвядоміў,*
*што сам з сабой зрабіць павінен ён...*
*Лавіла чуйным слыхам я ўвесь дзень*
*стук капытоў у нетрах цёмнай пушчы,*
*стук капытоў ля паляўнічай сьцежкі —*
*і ў роспачы няўмольны стрэл чакала.*

Пераклаў з румынскай А.М.

# Вацлаў Гавал — пра спадчыну камунізму

**Фрагмэнт інтэрвію, якое 14 верасьня надрукавала *Gazeta Wyborcza***

**Ці няма ў Вас такога ўражаньня, што сёньня сумленныя людзі зноў прайграюць, бо ня хочуць рабіць сьвінствы, а перамагаюць дэмагогі ды эгаісты, якія не стыдаюцца крычаць, хлусіць, здраджваць?**

Я ўжо ня раз пісаў, што грамадзтва — гэта вельмі складанае й загадкавае стварэньне, і было б неразумна верыць у тое яго аблічча, якое паказваецца ў гэтую хвілю. А тым больш лічыць яго адзіным праўдзівым абліччам. У 1968 годзе без ужываньня гвалту мы бараніліся ад савецкага нападу. Ад часу да часу ў тыя драматычныя моманты гісторыі нашаму грамадзтву ўдаецца мабілізаваць у сабе нейкую традыцыю гуманізму, талерантнасьці, высакародства. Аднак гэта толькі адзін са схаваных патэнцыялаў. І таму, хоць нас і раздражняюць тыя зайздрасьць і недавер, якія ёсьць у грамадзтве, трэба перабірацца праз гэтую фазу. Адна мабілізацыя ў крытычны момант гісторыі, калі на мапу ставіцца ўсё і людзям удаецца аб'яднацца, ня можа ўхіліць наступствы саракагадовага маральнага заняпаду.

**Ці ёсьць у гэтай саракагадовай «спадчыне» штось вартае ўратаваньня?**

Жыцьцё пры таталітарызьме мела пэўныя перавагі. Яны вынікалі не з праграмы, а з таго, што сістэма нас душыла. У людзях абуджаліся такія рысы, якія ў нармальных дэмакратыях не былі такія выразныя. У разьвітай эўра-амэрыканскай цывілізацыі існуе вельмі глыбокі крызіс каштоўнасьцяў. У нас жа бракавала шмат чаго, што маюць людзі ў вольных і добра забясьпечаных краінах, і таму нас не закранулі крызісныя зьявы, якія вынікаюць са становішча ўсеагульнага дабрабыту. Нядаўна я размаўляў пра гэта з прэм'ерам галяндзкага ўраду панам Любэрсам, які сказаў, што галоўная праблема для ягонага грамадзтва — утрата сэнсу жыцьця. Асабліва маладое пакаленьне незадаволенае тым, што ўсё мае. Пан Любэрс казаў таксама, што папулярнасьць Руху Зялёных і клопат пра экалягічную сітуацыю на Зямлі — гэта нешта, што зноў дае людзям пэўны сэнс, мэту й каштоўнасьці, за якія яшчэ варта змагацца.

**Як дысыдэнт, Вы напісалі эсэ «Слова пра слова». У ім Вы пісалі, якое вялікае значэньне мае слова, калі за яго можна трапіць у турму. Ці не турбуе Вас, што цяпер слова страціла сваю вагу? І што б ні гаварылася, — ня мае вялікага значэньня?**

Відавочна, мы жывем у часы вялікай інфляцыі й дэвальвацыі словаў. Мы ня можам нават усіх іх заўважыць, бо выходзіць столькі газэт, камэнтароў... Гэта такі непразрысты й неканкрэтны час, калі тысячы мудрых словаў праходзяць незаўважаныя, а адно пустое выклікае зусім абсурдную афэру. Аднак праз два дні гэта ўсё і забываецца, што характэрна для нашага сучаснага палітычнага жыцьця.

**ён падыходзіць да берагу, і прарок дабраслаўляе народ і зямлю... Тады мы сядаем на карабель — і ў нябёсах пяюць урачыста анёлы. І Бог зноў паварочвае вецер — і мы выходзім у мора. У Ханаан, у Ханаан!.. Глядзі, углядайся пільней, мой сыне, ці не паказаліся яшчэ белыя ветразі й белы карабель?»**

**«Не паказаліся, не паказаліся... Тата, я хачу спаць!»**

**«А ўжо ў Ханаане пасьпіш! Усе мы там адпачнем... пад пальмамі, на беразе водаў, на зямлі, дзе рэкі цякуць мёдам і малаком. Адпачнем за сябе, адпачнем і за нашых продкаў... Вялікая наша стома, вялікі па ёй і спачынак!.. Ох, паглядзі, ці няма яго, ці яшчэ не плыве?»**

**«Так, тата, на небакраі карабель!»**

**«Вернікі, карабель плыве, карабель плыве! Дык засьпявайма ж! Дык узрадуемся! Наш Бог — наша цьвярдыня!»**

**«Тата, тата, на гэтым караблі чорныя ветразі! Гэты карабель сам чорны!»**

1908.

## *Нактурн*

**Белая ноч, нібы малако, разьліўся туман у пратоках між астравамі, нібы вэлюм, вісіць ён над мокрымі скаламі. Белы Кастэльхольмскі замак. Нібы шэраньню, пакрыты ён скамянелаю вапнай. На прыступках сходаў прабіваюцца парасткі рэзанцу, сьцены ўрасьлі ў глыбіню заснулай зямлі.**

**Гэтак стаіць Кастэльхольмскі замак далёка ў глыбіні астравоў. Забыцьцё дрэмле ў ягоных мурах, цішыня выглядае з байніцаў на вежах, заржавелы ветраўнік паказвае ў мінуўшчыну.**

**Белай ноччу сяджу я на сходах Кастэльхольмскага замку. Пашчэрбленыя каменныя прыступкі вядуць долу да сьцежкі, пратаптанай у траве. За сьпінай у мяне ўзвышаюцца сьцены зь цяжкімі жалезнымі дзьвярмі.**

**Белая ноч. Над чорнымі водамі й пасунулымі ўзгоркамі застывае смужлівае сутоньне. Пах дзяцеліны ўздымаецца над хвоямі й дзікімі вішнямі.**

**Забыцьцё зь цішынёю дрэмлюць у замкавых вокнах. Сны і ўспаміны сьцелюцца ўздоўж муроў угору і долу.**

* * *

**Сівы стары йдзе зь ядлаўцовым кіем па белай дарозе, што вядзе з Сальтвікі. За ім на повадзе ступаюць вялізныя быкі, адзін як сьнег белы, другі як вугаль чорны, спакойныя й замаркочаныя. І маленькі хлопчык у чырвонай шапцы паганяе гэтых быкоў.**

*(Працяг на старонцы 14).*

# Вазьмі крыж свой...

(Працяг са старонкі 1).

натапыранымі, як курыца на седале, местачковымі кабетамі. З радыё яны ўжо, напэўна, ведалі, што пачалася вайна. Як ведаў жудасную навасьць і дзядзька Ян, якога мы засталі дома каля дэтэктарнага прыёмніка: ён прыкладаў да вуха чорны кружок слухаўкаў з пружыністай бліщчастай дужкай.

Вярнуўшыся сьцішэла-чуткім надвячоркам зь дзядзькавага хутара дадому, каля першае хаты пад вілаватаю бярэзінай я ўбачыў купку нашых па-сьвяточнаму прыбраных у засіненых хустках і доўгія цёмна-бурачковыя й зялёныя, як селязьнева шыя, спадніцы варакомскіх кабет. Хударлявы загарэлы мужчына ў форме чыгуначніка і з сумкай, зь якое былі відаць жоўтыя скручаныя сьцяжкі, нават з разважнасьцю й спакоем пераказваў яшчэ адну навасьць, што, апроч Наваградка, германец бамбіў Баранавічы й Вільню. Два гарады, Наваградак і Вільня, куды мяне вазілі на рэнген і апэрацыю, і якія я ўжо бачыў і ведаў, надавалі майму хлапечаму ўражаньню нейкі асаблівы, неразгаданы сэнс.

Як мела свой сэнс ці, праўдзівей, адметны, рытуальны знак бярэзіна, пад якою пасьля гэтага нядзельнага дня, прадчуваючы немінучую біду, пачаў выць суседзкі сабака. Задзёршы й выцягнуўшы галаў, выў ён страшна, кожны раз паўтараючыся да заходу сонца. І неўзабаве пад бярэзінаю пачалі спыняцца падарожныя людзі, каб распытаць дарогу на дальшыя вёскі й Менск, і спачывалі, разуўшы намуленыя ногі, адзінокія, здарожаныя сьпякотай і адступленьнем брытагаловыя байцы.

Роўна праз тыдзень пасьля таго, як праляцелі чорныя зь белымі крыжавінамі на борце нямецкія самалёты, пасьля таго, як расьцяклося па ўсіх дарогах і гасьцінцах разрозьненае, кінутае камандзірамі савецкае войска, як адкурэлі пылам і заглухлі ў прышашэйных канавах, захлынуўшыся астатняй кропляй бэнзіну, перагрэтыя палутаркі, як, тулячыся між жытоў, праехалі на роварах перапанутыя міліцыянты й энкавэдзістыя, дык роўна праз тыдзень, якраз у палудзенны час, у халадку пад шапаткою бярэзінаю прылёг, паставіўшы побач ручны кулямёт, зьнясілены гарачынёю й дарогаю вузкавокі, татарскага тыпу сяржант.

Ён першы і зглядзеў на белаватай жвірыстай шашы перад нашаю вёскай нямецкі матацыклет з кулямётам на люльцы й двума салдатамі-разьведчыкамі.

Ён першы, хоць і ня трапна, але даў кароткую чаргу з кулямёта. Потым, мусіць, перапалохаўшыся, кінуў пад бярэзінай і ручны кулямёт, і фуражку з малінавым акольшам (мы ж, дзеці, як належыць усім дзецям, зграблі яе сабе) і ціхенька нырнуў за гумнішчы, бо немцы, учуўшы стукат кулямёту, сьпешна завярнулі назад і грунтоўна, нават з гарматамі, акапаліся на блізкім ад нашае вёскі шашэйным грудку.

Выконваючы сумленна й сьвядома свой вайсковы загад ці абавязак, сяржант, напэўна, ня ведаў, што сваім стрэлам ён скосіць нашую вёску, дваіх маіх суседзяў і чатырнаццаць, як налічыў я пазьней, сваіх байцоў, якіх куля застала то на шашы, то на касагоры за рэчкаю, то каля жыта, то каля гумна на хутары. На аднаго зь іх, што ляжаў на сьцежцы пры нашым балотцы, наўкол сябе вытаптаўшы асаку, я, задумны падлетак, натрапіў. З гэтай нечаканай сустрэчы я й цяпер бачу сьцяты ў страшнай пакуце твар і аскаленыя зубы...

Немцы на тую кароткую чаргу адказалі сьпярша двума доўгімі кулямётнымі стрэламі з самалёту, а потым гарматным агнём, ужо з блізкага грудка, з шашы.

У тры разы па сорак пяць хвілін з двума кароткімі перапынкамі, каб астыла перагрэтая зброя, яны расстралялі нашую вёску і ўсе блізшыя ад шашы хутары.

Так зьнік са сьвету, і ўжо назаўсёды, вясёлы дзядзькаў хутар, а на ягоным гарышчы — сабраныя ня меней як за дзесяць гадоў на астатні сялянскі грош віленскія газэты й бадай усе нешматлікія беларускія календары ды кніжкі, — увесь дзядзькаў скарб, цану якому ведаў хіба толькі ён адзін, бо, выскачыўшы з хаты, якая занялася гарэць, заплакаў, шкадуючы ня столькі яе, колькі руплівага ды ашчаднага сабранае друкаванае беларускае слова. Ён расказваў мне пра гэта праз шмат гадоў у задушлівай стопцы, дзе мы начавалі пад нястомнае пашкрэбваньне шашаля: дзядзька Ян прыяжджаў з Польшчы, з кашубскага азёрнага краю, дзе апынуўся па волі лёсу пасьля вайны, каб ужо астатні раз зірнуць на родны надрэчны касагор і разьвітацца зь людзьмі, зь якімі знаўся больш як палову свайго жыцьця.

Тады ж згарэла будаваная гадамі ды яшчэ, здаецца, ня скончаная, з новымі нефарбаванымі вокнамі наша прасторная хата, падпаленая першым жа снарадам, што прашыў адразу дзьве жоўтыя ад акалоту страхі, — другая хата, як знарок на біду, была таксама новая.

Другі снарад (так падлічыла маці, хоць, вядома, не другі й нават ня трэйці) ўзарваўся ў сенях ужо дзедавай хаты, куды з гарачкі й са сполаху ўскочылі жанчыны з усяго канца нашай вёскі й дзе пад печ запхнулі нас, шасьцёра ці сямёра дзяцей, заваліўшы яшчэ падушкамі. Там я й задыхнуўся б, каб ня гэты раптоўны выбух, што, узарваўшы хатнія дзьверы й дыхнуўшы сьмярдзючым порахам траціну, ня вызваліў мяне з падпечча — жанчыны, адкінуўшы падушкі, хуценька пачалі выцягваць нас, дзяцей.

Мяне падхапілі нечыя рукі й кінулі ў вадчыненае вакно — галавою на вулічны брук.

Як беспрытомны, праз чужыя надворкі я выскачыў на адкрытую шашу, абапал якой у сівой ад пылу канаве ляжалі зьбялелыя, першы раз, напэўна, трапіўшы пад кулі, неабстраляныя байцы. Ня страцілі хіба развагі й розуму жанчыны, ратуючы й ловячы пры шашы нас, неразважных дзяцей, і топчучы каля сябе ў старыя, зарослыя ўжо крапівою картапляныя ямы. Сюды ж ад падпаленае палутаркі прыпаўзьлі трое маладых байцоў ды пачалі зрываць з пілётак зманліва прыгожыя чырвоныя зоркі; адну ўсё ж

# Фрыдэбэрт Туглас

абразкі

(Працяг са старонкі 13).

Яны спыняюцца перад замкам, і я пытаюся:

— Дзядуля, нашто гэты замак?

— Тут увязьнены кароль Эрык! — урачыста адказвае стары.

— Чаму ж ён увязьнены? Ці ў яго няма сына, ці ў яго няма брата, які б яго вызваліў?

— Брат ёсьць, але ён якраз яго й заняволіў!

— Дзядуля! — кажа хлопчык. — Ты забыўся: кароль Эрык ужо даўно памёр, і ягоны брат памёр, і ўсе тыя каралі ўжо даўно памёрлі. А ў замку жывуць адно кажаны, вялікія чорныя кажаны!

— Хлопча, хлопча! — тужліва ўздыхае стары, гайдаючы галавой. — Я пасаджу цябе адчытваць модлы ў Лембёцкі кляштар!

— Дзядуля! — сьмяецца хлопчык! — Няма ўжо Лембёцкага кляштару! Ці ж ты ня памятаеш, як мы былі там апошняга разу, дык на каменьні над алтаром грэлася на сонейку вялікая яшчарка. Толькі руіны стаяць там, а за руінамі сьпіць мора.

Але стары тужліва апускае галаву і ўздыхае:

— Што тыя руіны, што яшчаркі! Нічога ня зьмяняецца, не зьнікае, нічога новага не прыходзіць. Няма пачатку, няма канца. Што ведаеш ты, што ведаюць яшчарка й кажан! Але вы прыходзіце й лічыце, што старое сышло, што старое вас напалохалася, што вы яго перасілілі. Старое ніколі не памірае, не зьнікае, не адыходзіць! Перамагае старое, а не маладое. Бо хто ж калі чуў, каб старое рабілася маладым, але ўсё маладое калісьці старэе. Ля кожнай дарогі, дзе ідзе маладое, сядзіць старое, каб яго пераняць, яно сядзіць на кожным скрыжаваньні. Але што ты ведаеш пра тое — што ведае яшчарка ці кажан пра тое — усе вы, хто п р ы х о д з і ц ь!

І ніжэй нахілілася галава старога, і долу глядзяць задумлівыя быкі. Толькі хлопчык, шырока расплюшчыўшы вочы, узіраецца паўз быкоў і старога ў туман.

І так яны адыходзяць ціха далей у бок Бомарсунду. Яшчэ нейкую хвілю чарнеюць на вяршыні гары гарбы вялізных быкоў пад зеленаватым небам, а тады й яны зьнікаюць, нібы відмо, у туман і ў далеч.

* * *

Забыцьцё зь цішынёю дрэмлюць у замкавых вокнах. Між двух заснулых камянёў распускаецца шэрая кветка. Гэта кветка ўспамінаў.

Белая ноч. Нібы малако, падняўся туман над Лумпарскім морам, нібы вэлюм, калышацца ён над мокрымі скаламі.

1907.

## *Хвіліна шчасьця*

Маладзік уздымаецца над лесам, жабы кракочуць у тумане, расплывіста палымнее сэмафор, маладая жанчына сядзіць перад будынкам станцыі... О, ціхая хвіліна шчасьця.

Але чаму сумуеш ты?

А, ты бачыш, як далёка па рэйках імчаць цягнікі зь людзкімі бедамі й ліхотамі, тысячы цягнікоў па ўсіх краёх сьвету. І ты ўяўляеш, які б вялізны быў цягнік, калі б усіх іх счапіць разам. Усё далей, усё далей імчаць цягнікі, да гарадоў і прыстаняў. І ты бачыш разам усе тыя прыстані й гарады перад сабою, як на сталe, і чуеш, як іх агульшчыны стогн патопам уздымаецца да неба!

Не, не глядзі на гэтыя рэйкі, што злучаюць цябе з сусьветам. Супакойся, забудзься, дай спачыць вачам на прыгожым твары маладое жанчыны.

Але ты бачыш у ім будучыню, бачыш, як састарэе гэты твар, бачыш, як скрывяць яго страшныя хваробы й пакуты. О, ты бачыш яго мёртвым, бачыш яго ў дамавіне, бачыш, як ён рассыпаецца пад зямлёю. І тады ты бачыш, як на магіле твой прышлы двайнік трымае ў руках яе чэрап і пытаецца ўтрапёна: быць ці ня быць?

Не, не журыся пра чалавека, бо ён дачасны, затое застаецца агульнасьць, жыве сусьвет, трывае адвечная суладнасьць жыцьця. Глядзі, які прыгожы сёньня маладзік!

Але ты бачыш сьмяротную пустэчу месяца, бачыш яго жудлівыя кратэры й ледзяныя хрыбты, бачыш жахлівае зеўраньне сфэраў, дзе стыне апошні драбочак думкі. І ты разумееш: гэта й нашая будучыня, наша апошняя мэта, завершаная суладнасьць!

О, ціхая хвіліна шчасьця!

1907.

## *Мроі*

Бачу карціны з краёў далёкіх, з часоў мінулых, што ні разу ня бачыў, дзе ніколі ня жыў. Бачу гэтак выразна, што жах, абуджаны імі, страшнейшы за самыя жудасныя ўспаміны. Што ў параўнаньні зь імі сон, што трызьненьне ў гарачцы!

1.

Сьпякотны дзень, сонца паліць, як вогненны шар. Запылены брук на прыбярэжнай вуліцы. Сьнежна-белыя, сонцам выбеленыя будынкі, над верандамі белыя й чырвоныя палатняныя стрэхі. У брамах пазяхаюць рабы.

Сяджу на галеры, прыкаваны да лавы, і ўзіраюся распаленымі вачмі ў гэтую карціну. Побач сьпіць мой таварыш, разявіўшы рот, пот сьцякае па вугальна-чорным твары, едкім тлушчам пахнуць кудлатыя валасы.

Мора застылае, нібы алей. Сонца палае. Мне смажна.

Вось пустою вуліцай праходзіць почт: чатыры рабы зь лёгкім паланкінам. Побач з паланкінам бяжыць маленькі мурын, у чорнай руцэ ён трымае парасон з чырвонага шоўку на доўгім гнуткім дручку. Ззаду й сьпераду крочаць лягчанцы, тоўстыя й безбародыя, у цёмна-чырвоных цюрбанах.

У паланкіне сядзіць маладая жанчына ў сьветла-жоўтым плашчы, абшываным залатою махрой. Шчокі ў яе нарумяненыя, а ў вушах калышуцца вялікія завушніцы, а зь імі калышацца й галава. Жанчына лена адхінулася назад, сядзіць нерухома, прыплюшчыўшы вочы. І толькі крывава-чырвоныя вусны — нібы жывая рана.

Хто тая жанчына? Бэрэніка-князёўна, ці мо Арсыноя?

Почт мінае пасьпешна, бязгучна. Бачу яшчэ, як удалечы калышацца на доўгім дручку чырвоны парасон. Але вось з жоўтага бруку ўзьнімаецца жоўты пыл, завіхураны раптоўным пошугам ветру, і ўсё занікае.

Усё занікае...

Дзіўная думка прыходзіць мне ў галаву. Дзе я? Спрабую паварушыцца, але, нібы ў сьне, не магу зрушыць ног. Што гэта: аблуда? відмо? Гэтыя сонцам выбеленыя будынкі, застылае мора й мурын, што сьпіць побач са мною — ?

Язык мой прысох да паднябеньня, як кавалак гліны.

# Анталёгія НН

## Забойства пракурора

У Пецярбургу 27 сьнежня забілі галоўнага ваеннага пракурора генэрала Паўлава. Ген. Паўлаў ужо даўно не выходзіў нікуды, зь яго казённай кватэры прабілі дзьверы проста ў суд. Дзьверы гэтыя абложаныя былі сталёвай бляхай. Вокны былі з жалезнымі аканіцамі. Асобныя людзі пільнавалі яго. Нейкі чалавек, адзеты за ваеннага пісара, з рана ў 9 гадзін увайшоў у двор. Дворнік яго не пушчаў, але ён паказаў кнігі з казёнными пакетамі, і яго пусьцілі. Ген. Паўлаў гуляў па садзіку з сваімі сабакамі. Тагды гэты чалавек падыйшоў к плоту садзіку, выстраліў у галоўнага ваеннага пракурора 6 разоў і забіў яго. Пасьля кінуўся ўцякаць; наскочылі на яго гарадавыя, але ён усё адстрэльваючыся, уцякаў і далёка ўжо адбег; але сапсуўся рэвольвар, ён затрымаўся, і яго злавілі. Калі яго дапрошвалі, то ён вясёла адказваў, але хто ён такі — не прызнаўся. Яго ўжо павесілі.

1907, №1.

## Што рабілі на Сахаліне японцы

Пакуль Расея трымала Сахалін у сваіх руках, яна ня толькі ня мела зь яго карысьці, але яшчэ несла досыць вялікую страту. Цяпер палова Сахаліну перайшла да Японіі, і Японія ўжо ў гэтым годзе адно за рыбу, што там ловяць, мае чыстага заробку 500,000 рублёў. А на другі год яна ўжо здала рыбную лоўлю ў арэнду за 800,000 рублёў.

№ 19, 1907.

## Новае машэнства

У Пецярбургу адкрылася новае машэнства. За 30 гадоў горад выдаў па патрабаваньню начальства 90,000 рублёў на валёнкі конным жандарам, а жандары тым часам валёнак не насілі, бо конныя й ня могуць іх насіць. На падбор сівых коней выдана 40,000 руб., а жандары сівых коней ніколі й ня мелі, а егдзяць на цёмна-чырвоных.

№ 9, 1907.

## Адлучэньне царквы

У Юхноўскім павеце Смаленскай губэрні Кікінскі валасны сход 7-га сакавіка гэтага году пастанавіў аддзяліць царкву ад воласьці, панізіць плату за малебны і патрабаваць ад духавенства, каб і яно плаціла збор за зямлю. Сьвяшчэньнікі стараюцца даказаць, што іх пастанаўленьне праціўна людзкім і божым законам, у каторых быццам сказана, што мужыкі павінны клапаціцца, каб іх духавенству добра жылося, а хто адмаўляецца ад гэтага, дык той не атрымае царства нябеснага й ападзе ў пекла. Але ўсе гэтыя пропаведзі не прыносяць духавенству карысьці, бо мужыкі сталі ўжо гаварыць аб тым, каб прызначыць за царкоўную трэбу сваю таксу. Бяда з мужыком: мусіць, ён і пекла перастаў ужо палохацца.

№16, 1907.

# З усіх старон

## Пра шаленства

За ўвесь мінулы 1990 год у Вільні 820 чалавек былі пакусаныя шалёнымі зьвярамі, а за няпоўны сёлетні год — ужо 850. 705 зь іх пацярпелі ад сабак, 91 — ад кошак, 51 — ад іншых жывёлаў. 11 чалавек былі пакусаныя ваўкамі, адзін — шалёным янотам, дзевяць чалавек мелі кантакт з шалёнымі каровамі. Шаленства пры ўкусах перадаецца праз сьліну хворае жывёлы. Спачатку настае парушэньне нэрвовай сыстэмы, пасьля ня можна пераносіць ветрык, пасьля — нельга глытаць, настае паралюш ног. Сьмерць наступае праз пяць дзён.

## Пра сьмяротную кару

Кат цэнтральнай каірскай турмы Хільмі Султан прапанаваў уладам распачаць прамыя трансьляцыі па эгіпецкай тэлевізіі працэдуры павешаньня. Дзеля выхаваньня, — кажа Султан. — Павешаньне — жахлівае відовішча. За плячыма Султана больш за 20 гадоў працы і 240 павешаных злачынцаў. Ён таксама зьбіраецца прапанаваць уладам катаваць злачынцаў на цэнтральнай плошчы Каіра.

## Пра школьныя адзнакі

У нямецкай зямлі Шлезьвінг-Гальштэйн сёлета адмянілі ўсе школьныя адзнакі. Веды вучняў будуць спраўджацца два разы на год, пасьля чаго настаўнікі будуць пісаць разгорнутае заключэньне, дзе будуць адзначаныя ўсе посьпехі й недахопы кожнага вучня па кожным прадмеце.

# Што пішуць?

## Пра Нашу Ніву

*Уладзімер Старчанка (Гомель):*

Матэрыялы газэты падабраныя роўныя. Некаторыя зь іх напісаныя нібыта адным чалавекам. Добра гэта ці блага, адразу ня скажаш. Аднолькасьць стылю можа надакучыць... Калі газэту будзе чытаць толькі частка тых, хто зараз чытае *ЛіМ*, тады папершае, атрымаецца ўжо не *Наша Ніва*, а хутчэй «наш гарод», па-другое, аб'ектыўна НН будзе паглыбляць розьніцу ў мэнталітэце нацыянальна сьвядомых беларусаў і астатняй, пакуль значна большай іх часткі. А гэта небясьпечна. Прыгадайце, ці не таму беларускія сяляне за грошы палявалі паплечнікаў К.Каліноўскага, што занадта ўжо розны быў узровень самасьвядомасьці?.. Мне здаецца, галоўнае зараз навучыць беларусаў перш за ўсё (нават перш чым чытаць, пісаць і размаўляць) думаць па-беларуску, беларускімі вачыма глядзець на падзеі мінулыя, сучасныя й наступныя. Тады не паўстане пытаньняў, на якой мове вучыць дзетак, весьці справаводзтва, размаўляць у Парляманьце... Вельмі добра, што НН ня плача на кожнай старонцы пра лёс мовы, лёс нацыі й г.д. Можа, менавіта з-за гэтага нумар пакінуў станоўчае ўражаньне.

## Пра партызанаў

*Рыгор Лявоньцеў (Чалябінск):*

У №1 НН зьмешчаны верш Л.Геніюш «Партызаны» і артыкул С.Паўлоўскага «Героі й ахвяры». Можна было б таксама надрукаваць некалькі радкоў з кнігі Ваўпшасава «На тревожных перекрестках», дзе гаворыцца, што іх атрад таксама шукаў шляхі зьнішчэньня фон Кубэ, але гэта ўдалося іншаму атраду праз Мазанік, за што яна атрымала Героя. Ваўпшасаў кіраваў сьпец. атрадам НКВД, значыць, зьнішчэньне было загаданае з Масквы, дзе мусілі ведаць пра меры немцаў у вадказ. Таксама трэба было надрукаваць загад нямецкага камандаваньня з кнігі «Преступления немецко-фашистских оккупантов на терририи Белоруссии» — пра тое, што за фон Кубэ падлягае расстрэлу 2 ці 2,5 тысяч заложнікаў плюс яшчэ 500 (ня памятаю дакладна). Тут жа трэба было даць вытрымку з загаду Тухачэўскага наконт падаўленьня паўстаньня ў Тамбоўскай губэрні ў 1921 годзе, тыя радкі, дзе гаворыцца пра заложнікаў (часопіс *Родина*, №10 за 1989 г.). Дарэчы былі б і радкі з нататкаў Леніна пра сістэму заложнікаў. Нарэшце, можна было б даць інфармацыю пра колькасьць расстраляных заложнікаў за забойствы Урыцкага, Вароўскага, Кірава. Гэта для таго, каб паказаць сутнасьць таталітарнае сістэмы ўлады, ці то фашысцкай, ці то камуністычнай, што народ для яе ня што іншае як матэрыял для падтрымкі свайго рэжыму. Побач з усім гэтым можна было б зьмясьціць гутарку з вэтэранам партызанам (сумленнага й разумнага можна знайсьці) пра тое, ці ставілася хоць калі задача — захаваць насельніцтва ў часе правядзеньня апэрацыяў (выбухаў на шашы, чыгунцы ды інш.)... Што тычыцца ўчынка каманьдзіра Захарава, дык падобныя факты можна знайсьці на тэрыторыі кожнага сельсавета. У чатырох км ад нашае вёскі (Клічаўскі р-н) п'яныя партызаны забілі настаўніка Васіля Астроўскага. Гэта быў вельмі прыгожы малады чалавек. Школьная прыбіральшчыца з рэўнасьці напаіла партызанаў самагонкай і нацкавала іх на настаўніка. Забілі яго ў хаце, на вачах у жонкі й дачок (1937 і 1939 гадоў нараджэньня)... Пасьля вайны на ўсе кіраўнічыя пасады ў калгасах і раёнах ставілі былых партызанаў. Сярод іх было вельмі шмат акружэнцаў, г.зн. не беларусаў. Пасьля вайны яны працягвалі палітыку генацыду беларускага народу. Чаму ён і стаў такі пакорлівы, што назіраецца і ў суседняй Смаленскай вобласьці, таксама партызанскай, дзе кіраўніцтва адно з самых кансэрватыўных у Расеі.

## Пра падман дзяржавы

*Віктар Кунцэвіч (Масква):*

Мой дзед памёр у 1969 годзе. Казалі, што ад працы. Першыя мае жыцьцёвыя ўспаміны — ягонае пахаваньне. Ніколі ні ў якія газэты мой дзед не пісаў. Няхай прабачыць ён мне, але я напішу за яго тое, што ён напісаў бы ў НН, калі б дажыў... Добрыдзень газэта «Наша Ніва». Прабачце мне за мову ды й за памылкі, у школе я вучыўся толькі чатыры клясы пры Польшчы. Бацька мой, Мікола, быў чалавек набожны, гаспадарку меў моцную. Дзяржаву падманваў часам, але гэта яму з рук сыйшло. Справа ў тым, што пры Польшчы былі значныя страхоўкі. Вось Мікола хату застрахуе на большую цану, чым яна каштуе. Запаліць на гары, дзе саломы шмат, сьвечку, выйдзе з усёю сямьёй на вуліцу ды й кажа суседзям, што пайшоў у Наваградак на фэст. Вяртаюцца яны на другі дзень — хата згарэла. Неўзабаве за вялікую страхоўку бацька збудаваў новую хату, яшчэ лепшую, чым была...

## Пра сябе

*Віктар Нагнібяда (Масква):*

Калі й дзе нарадзіўся, я ня памятаю. Запісана, што ў Баранавічах. Але я адчуваю свой родны кут — у вёсцы Ачукевічы каля Любчы. Тут я гадаваўся ў бабулі. Цяпер жыву ў Маскве й мару пераехаць на Беларусь. Пасьля сканчэньня вайсковага інжынэрнага вучылішча ў Ленінградзе быў накіраваны ў Маскву. Вучыўся някепска і меў неблагія пэрспэктывы па службе. Але неўзабаве быў абвінавачаны ў нацыяналізьме ды пацыфізьме. Зараз звальняюся з Узброеных сілаў СССР. Наогул, зволіцца давялося б рана ці позна, бо паступова я зрабіўся бел-чырван-белай варонай у сваім афіцэрскім асяродзьдзі. Не знайшлося паразуменьня нават з афіцэрамі-беларусамі. Варожасьць, сьмех і цыканьне за сьпінаю — вось якія ўзнагароды на маім муньдзіры за адкрытую любоў да роднага краю й ужываньне беларускай мовы.

На выданьне *Нашае Нівы* наступныя грошы

## ахвяравалі:

*Васіль Супрун* са Слоніму 10 р.
*М.Грыбаў* зь в. Вялікія Эйсманты 5р.
*Мікалай Валошчык* зь Берасьця 25 р.
*Браніслаў Кузьміцкі* зь Менску 100 р.
*Васіль Астаповіч* з Масквы 25 р.
*Кастусь Юркавец* з Бабруйску 300 р.
*Уладзімер Калесьнік* зь Берасьця 14 р.
*Лявон Вашко* зь Менску 100 р.
*М. Аляксандраў* зь Берасьця 5 р.
*Р.Мірскі* зь Берасьця 35 р.
*К.Калодзіч* зь Берасьця 5 р.
*І.Тарыма* зь Берасьця 10 р.
*М.В.* зь Берасьця 10 р.
*Алесь Жамойцін* з Кушлянаў 5 р.
*Лявон Валуй* з Таліну 50 р.
*Алег Клыбік* зь Менску 25 р.
*Алесь Галубкоў* з Жодзіна 40 р.
*Ю.П.Гіль* зь Вільні 5 р.
*Іван Чыгрынаў* зь Менску 10 р.
*А.Е.Пупцаў* зь Менску 10 р.
*Вячаслаў Шыдлоўскі* зь Менску 10 р.
*Уладзімер Рымша* зь Мілейкаў Івацэвіцкага р-ну 10 р.
*Сяргей Цімохаў* з Полацку 23 р.
*Пятро Кавалеўскі* з Наваполацку 10 р.
*Рамуальд Казлоўскі* з Наваполацку 10 р.
*Алесь Аркуш* з Наваполацку 10 р.
*Ірэна Жарнасек* з Наваполацку 10 р.
*Сяргей Запрудзкі* — ганарар за №2.

## Паштовая скрынка

**Цімоху В.** з Гомля. Дзякуй за добрыя парады. Але ж чакаем Вашых допісаў. Напішыце пра сябе. Няхай людзі пачытаюць, які ў чалавека можа быць пакручасты лёс.

**Юрыю Л.** з Масквы. Дакумант сапраўды трэба апублікаваць. Але патрэбны камэнтар — ня ўвогуле пра музэй, а менавіта пра гэты дакумант.

**А.К-му** з Горадні. Што тычыцца Вашых папрокаў А.Чобату — пішыце больш канкрэтна.

**Вячаславу П.** з Маладэчна і **В.П-ку** з Гомля. Наш праўшчык за Вашыя вершы ня ўзяўся.

**Д.Б-му** зь Менску. Апошняе выданьне пра старажытныя гербы беларускіх гарадоў — кніжка Анатоля Цітова «Гарадзкая геральдыка Беларусі» (Менск, 1989). Таксама пра гербы часта пішуць часопіс Спадчына, газэта Беларускі калекцыянэр.

**Анатолю Б.** з Гомеля. Пісаць палітычныя вершы сёньня небясьпечна. Хутка старэюць.

**Юрасю П.** з Магілеву. Палітычная інфармацыя таксама старэе. НН выходзіць пакуль так рэдка, а грамадзкае жыцьцё зьмяняецца так імкліва, што нам нічога не застаецца, як пісаць пра жыцьцё асабістае — пра думкі ды ўражаньні людзей — тое, што актуальнае заўсёды. Пішыце нам, калі ласка, з улікам такога нашага становішча.

**Алесю А.** з Варшаўскага ўнівэрсытэту. Гісторыя атрымалася занадта простая, каб яе друкаваць.

**Андрусю К.** зь Менску. Газэта Вашая яшчэ «невядома, ці будзе», кірунак — «нешта накшталт», «назвы пакуль няма»... Дык пра што ж мусіць паведаміць сваім чытачам Наша Ніва?

## Шляхецтва: сёньня гэта забава, а заўтра, магчыма, эканамічная праблема

Калі Вашыя продкі — шляхецкага роду, і Вы хочаце мець выяву свайго гербу, генэалягічную схему ды іншыя дакументы пра свой род — мы дапаможам Вам. Узгадайце хоць бы некалькі імёнаў Вашых продкаў (дзядоў і прадзедаў), мясцовасьць іхняга паходжаньня ці зямельных уладаньняў, назву герба. Узгадайце і разам з дакладным напісаньнем Вашага прозьвішча дашліце нам, на адрас рэдакцыі ў Вільні. Вы абавязкова атрымаеце адказ. Пры наяўнасьці паштовага пераказу на 25 рублёў архівіст зараз пачне пошук. Калі Ваш радавод зацікавіць рэдакцыю й Вы самі ня будзеце супраць, мы надрукуем матэрыялы ў газэце. У іншым выпадку за дадатковую аплату мы дашлем Вам матэрыялы пэрсанальна.

*Наша Ніва* — газэта для Вас і Вашых сяброў. Каб падпісацца на *Нашу Ніву*, перашліце адвольную суму грошай на адрас: **232051, Вільня, а/с 2425, Кардзіс Людвіка,** альбо **220131, Менск, а/с 229, Чубрык Кацярына.** Калі Вы атрымаеце нумароў на дасланую суму, мы паведамім Вам, што падпіску трэба працягнуць. Калі Вы жывеце ў Польшчы, грошы трэба пералічыць на конта **5526-80725-136 II PKO Białystok. Pismo Informacyjno-Kulturalne Wschodniej Białostocczyzny** *Czasopis* **(dla** *Našaje Nivy*). Кошт аднаго нумару 1000 злотых. Штосьці ўдакладніць можна па адрасе: 15-950 Białystok, ul. Suraska, 1. P.skr. 149. Tel. 210-33. У астатнім сьвеце падпіску зьбірае Сяргей Карніловіч з Кліўленду па адрасе: **Byelarusian-American Community Center "Połacak", 11022 Webster Road, STRONGVILLE, OH. 44130, U.S.A. Attn: Mr. S.Karniłovič.**

Беларуская газэта заснаваная ў 1906 г. аднаўленая ў 1991 г.

Рэдакцыйная Рада
Выдавец Павал Жук

Адрас для допісаў: 232041, Вільня, а/с 2082

Адрас для грашовых пераказаў: 232051, Вільня, а/с 2425.

Афсэтны друк.

Друкарня МАУ.

Замова